

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

№ 3 (16) Сакавік 1995 March Год выд. 3


## 25-га САКАВІКА

25-га Сакавіка 1918 году адбылося ўзнаўленьне нашай дзяржаўнасьці.

Аднак ня доўга прышлося нашаму Народу цешыцца свабодай ды заняцца адбудовай і ўмацаваньнем свае Дзяржавы. Ад усходу й захаду падняліся нашыя суседзі супраць нашага вызваленьня й у 1921 годзе Рыскай угодай падзялілі Беларусь між сабою. Ніхто, ніводная вольная краіна, якая мела голас і сілу ў станаўленьні новага парадку, не хацела бачыць сьвежага народабойства, крычучай несправядлівасьці...

## Жыве Беларусь!



## СЛОВА ДА БЕЛАРУСІ

Прымі віншаванні, Радзіма-матуля!
Хай здзейсніцца свята на нашай зямлі.
Палон і манкурты цябе не сагнулі,
Імкнення да волі забіць не змаглі.

Гісторыю ганьбілі, мову знішчалі.
Народ пазбаўлялі вытокаў святых.
Крышылі. Таптали. Штодня зневажалі
Сыноў і дачок непакорных тваіх.

Ты доўга трывала пакуты і здзекі.
Жыла успамінам аб славе былой,
Калі на шляху ад варагаў у грэкі
Была суверэннай і гордай зямлёй.

Сягоння ізноў ажываюць надзеі.
Ідзе абуджэнне спрадвечных крыніц.
Дай Божа, каб сэрцы людскія гарэлі
Ад гуку тваіх старажытных званіц.

Вітай Адраджэнне, Радзіма-матуля!
Здзяйсняецца свята на нашай зямлі.
Палон і манкурты цябе не сагнулі,
Імкнення да волі забіць не змаглі...

1991 г.

*Мікола Кавалеўскі*

## Лукашэнка пазбаўляе беларускую эканоміку надзеі...

*"Свабода"*

**30 студзеня скончыўся тэрмін, калі Беларусь магла атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду крэдыт сыстэмных трансфармацыяў (СТФ). 100 млн. даляраў нашая краіна страціла дзякуючы Лукашэнку назаўжды.**

Рэч у тым, што крэдыт сыстэмных трансфармацыяў выдзяляецца спэцыяльна для краінаў былога Савецкага Саюзу. Першую частку Беларусь атрымала яшчэ ў жніўні 1993 г. Тады ўрад Кебіча выкарыстаў гэтыя грошы ў асноўным на аплату расейскіх энэрганосьбітаў.

Для атрыманьня другой часткі, паводле правілаў, даецца паўтара гады. Гэты тэрмін для Беларусі заканчваецца 2 лютага. 30 студзеня Рада дырэктараў МВФ павінна была сабрацца і абмеркаваць праблему выдзяленьня нашай краіне другой часткі СТФ ў памеры 100 млн. даляраў. Аднак, паколькі Беларусь ня выканала свае абавязкі, беларускае пытаньне нават не было ўключанае ў парадак дня паседжаньня Рады фонду.

Гаворка ідзе найперш пра павышэньне тарыфаў на камунальныя паслугі. Варта прыгадаць, што падчас візыту місіі МВФ у Менск некалькі тыдняў таму кіраўнікі беларускага ўраду далі самыя цьвёрдыя абяцаньні прадстаўнікам фонду. У сродках масавай інфармацыі нават было распаўсюджанае паведамленьне прэс-службы ўраду аб дасягненьні поўнага паразуменьня паміж Кабінэтам міністраў і МВФ. Дарэчы, у гэтым канкрэтным выпадку ўрадоўцы казалі праўду: у Кабінэце міністраў сапраўды існуе рэальная адзінадушнасьць наконт неабходнасьці рэформаў у сыстэме камунальных плацяжоў. Праект адпаведнай пастановы даўно ўжо падрыхтаваны. У параўнаньні са сьнежаньскім, новы варыянт мае больш выразную сацыяльную арыентаванасьць.

Ёсьць толькі адно *але*, якое стаіць па-над здаровым сэнсам і ўсім Кабінэтам міністраў. Гэтае *але* называецца Аляксандрам Лукашэнкам і займае пасаду прэзыдэнта Беларусі. Лукашэнка, са словаў аднаго эканамічнага дарадцы ў Кабінэце міністраў, "упёрся, і цяпер яго не перакакаць". Растлумачыць увесь драматызм сытуацыі "эканамісту" Лукашэнку спрабавалі прэм'ер-міністар М.Чыгір, віцэ-прэм'ер М.Мясьніковіч, кіраўнік аналітычнага цэнтру адміністрацыі П.Капітула. Але ўсё безвынікова. Апрача таго, што цяпер да прэзыдэнта цяжка прабіцца нават віцэ-прэм'еру, найбольшую праблему ўяўляе паталягічнае нежаданьне Лукашэнкі каго-небудзь слухаць пры прыняцьці рашэньняў.

Дайшло нават да таго, што ў мінулую сераду прэм'ер-міністар М.Чыгір патэлефанаваў выканаўчаму дырэктару МВФ Мішэлю Камдэсю з просьбаю дазволіць адкласьці рэформу сыстэмы камунальных плацяжоў да завяршэньня ацяпляльнага сэзону (1 траўня). Сп.Камдэсю вымушаны быў нагадаць, што адпаведныя абавязацельствы былі прынятыя Беларусяй яшчэ ў сьнежні 1993 г. Новая ўлада рашуча пацьвердзіла іх у сваёй антыкрызыснай праграме. Такім чынам, МВФ ветліва, але вельмі адназначна выказаў немагчымасьць адтэрміноўкі гэтых мераў. Лукашэнка, дарэчы, не пажадаў сам тэлефанаваць кіраўніцтву фонду, бо першая такая размова ў пачатку студзеня скончылася для яго поўным правалам. Як бачым, аднак, і прэм'еру Чыгіру не ўдалося зьмяніць прынцыповую пазыцыю МВФ.

Невыкананьне Беларусяй абавязацельстваў безумоўна пацягне наступствы, якія, на думку некаторых эканамістаў у Кабінэце міністраў, "страшна прагназаваць". Відавочна, што МВФ зьяўляецца свайго кшталту сьветлафорам для іншых міжнародных інвэстараў. Цяпер на іхным шляху ў Беларусь загарыцца чырвонае сьвятло. Тымчасам, нават віцэ-прэм'ер В.Кокараў прызнаецца, што без замежных інвэстыцыяў уздым беларускай эканомікі немагчымы.

Такім чынам, папулісцкі авантурызм Лукашэнкі пазбаўляе Беларусь надзеі на пазытыўнае разьвіцьцё нашай эканомікі ў бліжэйшы пэрыяд. Гісторыя з крэдытам МВФ пераконвае ў чарговы раз, што Лукашэнка няздольны бачыць пэрспэктыву і дзеля часовага рэйтынгу гатовы ахвяраваць ня толькі стратэгічнымі інтарэсамі краіны, але нават і інтарэсамі свайго рэжыму. А гэта, як мне падаецца, красамоўна сьведчыць, што ён нават сам ня верыць, што прыйшоў "усур'ёз і надоўга".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## ЗША заклікаюць кіраўніцтва Беларусі паважаць свабоду друку

*"Свабода"*

**У заяве, распаўсюджанай 30 сьнежня, Дзярждэпартамэнт ЗША заклікае Беларусь не парушаць права на свабоду друку. У афіцыйным дакуманце гаворыцца:**

Некалькі беларускіх газэтаў паспрабавалі апублікаваць тэкст дакладу, падрыхтаванага членам беларускага парляманту, у якім некаторыя высокапастаўленыя прадстаўнікі адміністрацыі Лукашэнкі абвінавачваліся ў карупцыі. Газэты выйшлі зь белымі плямамі на тым месцы, дзе яны зьбіраліся надрукаваць тэкст дакладу.

Мы выказваем заклапочанасьць любой цэнзурай у друку. Свабода і адсутнасьць абмежаваньняў у дзейнасьці сродкаў масавай інфармацыі зьяўляюцца асновай дэмакратыі і служаць сродкам мірнага сацыяльнага разьвіцьця. Прэса таксама зьяўляецца сродкам асьветы выбаршчыкаў і выказваньня думак па надзённых пытаньнях.

Злучаныя Штаты заклікаюць урад Беларусі паважаць права прэсы на свабоду выказваньня думак у адпаведнасьці зь міжнароднымі пагадненьнямі, такімі як Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека і Гельсінскія пагадненьні, а таксама ў адпаведнасьці зь беларускай Канстытуцыяй.

Мы заклікаем Беларусь працягваць прымаць і замацоўваць меры, накіраваныя на дэмакратызацыю і эканамічныя рэформы. Свабода друку зьяўляецца важным кампанэнтам гэтага працэсу.

## Бізнесмены — супраць правячай бюракратыі

У Мінску адбыўся III з'езд Згуртавання прадпрымальнікаў Беларусі. Дэлегатаў з'езда віталі госці. Гэта такія прадстаўнікі дэмакратычных партый, беларускіх грамадскіх аб'яднанняў, вядомыя эканамісты і члены "ценявога" кабінета апазіцыі, як сп. А.Мальдзіс, В.Малашка, І.Нікітчанка, А.Станкевіч і інш. Было адзначана, што з'езд праходзіць у надзвычай цяжкі для Беларусі час. Правячая бюракратыя рыхтуе глебу для знішчэння спачатку эканамічнага, а затым і палітычнага суверэнітэту Беларусі, нічога не робіцца для стварэння цывілізаваных умоў для развіцця нацыянальнага бізнесу. Прадпрымальнікі, дэлегаты з'езда, згадзіліся з такой ацэнкай становішча і прынялі зварот з'езда да дэмакратычных сіл з заклікам згуртавацца ў адзін выбарчы блок.

На з'ездзе была прынята новая рэдакцыя статута, згодна з якой гэта арганізацыя будзе называцца "Беларускае згуртаванне прадпрымальнікаў", уводзяцца інстытуты сустаршыняў і Каардынацыйнай рады, абрана праўленне і кіраўніцтва спраў БЗП. І паколькі мэта БЗП — абарона правоў беларускіх бізнесменаў, умацаванне адкрытай, высокай культуры прадпрымальніцтва ва ўмовах цывілізаванай рынячнай эканомікі — прываблівае многіх прадпрымальнікаў, даём каардынаты для сувязі: 220030, г.Мінск, а/с 62, тэл./факс 45-78-52.

— *Народная газета*

*Дапамагайце Беларусі ў змаганьні за незалежнасьць, свабоду і праўду!*

*"Беларускі Дайджэст" патрабуе* **Вашае грашовае дапамогі!!!**

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# АБ ЧЫМ ГАВАРЫЛІ А. КОЗЫРАЎ І БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

**23 студзеня ў ходзе афіцыйнага візіту ў Мінск міністр замежных спраў Расіі Андрэй Козыраў сустрэўся ў Доме літаратара з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі. Адзін з прадстаўнікоў апошняй пасля 1,5-гадзіннага актыўнага дыялогу зазначыў, што ён не вельмі задаволены вынікамі сустрэчы, размовы не атрымалася, бо А. Козыраў занадта дыпламатычна адказваў на пытанні. Сам Андрэй Уладзіміравіч, наадварот, зазначыў, што ён вельмі задаволены дыялогам, бо шмат новага даведаўся аб Беларусі.**

Ва ўступным слове А. Козыраў падкрэсліў, што «ўсе мы належым да агульнай рускай культуры, маем агульныя карані», «інтэлігенцыя — гэта паняцце, якое не прызнае граніц», «у гэты год, дасць Бог, спраўдзяцца тэндэнцыі да інтэграцыі», «нас зблізкае больш, чым раздзяляе». Аднак прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі праігнаравалі гэты «інтэграцыйны тон» і пачалі гаворку пра тое, што перашкаджае збліжэнню. Першае пытанне, якое, відаць, было на вуснах у кожнага, задаў кампазітар Дзмітрый Смольскі: Чачня. Каменціруючы крывавыя падзеі ў Чачні, А. Козыраў заклікаў не паддавацца эмоцыям, ацаніўшы выказванні С. Кавалёва, расійскага ўпаўнаважанага па правах чалавека, як палітызаваную, барыкадную мову, а не мову праваабаронцы і інтэлігента. «Я не спяшаўся б з ацэнкамі, не дабаўляў бы эмоцый. Для мяне важна ў гэтай сітуацыі, што яна цалкам свабодна асвятляецца СМІ. Для мяне важней, каб была гэтая крытыка. Гэта залог таго, што мы разбяромся ва ўсім і перажывём гэта», — зазначыў А. Козыраў. Да чачэнскай тэмы на працягу ўсяго вечара выступаючыя вярталіся яшчэ не раз.

Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі выказалі сваё абурэнне нядаўнім рашэннем расійскай Дзяржаўнай думы аб правядзенні сумеснага пасяджэння з Вярхоўным Саветам Беларусі па ўключэнню нашай краіны ў састаў Расіі. Міністр замежных спраў Расіі, прадстаўнік расійскага парламента растлумачылі, што такога рашэння не было, што Дума толькі выказала ідэю і мелася на ўвазе арганізаваць сумеснае пасяджэнне парламентаў для напрацоўкі супрацоўніцтва.

Яшчэ адно вострае пытанне: лёс беларускіх культурных каштоўнасцей, што калісьці былі вывезены ў Маскву і засталіся там пасля распаду СССР, і якія, паводле Ташкенцкага пагаднення ў рамках СНД, павінны быць вернуты на Беларусь, аднак не вяртаюцца. А. Козыраў адразу зазначыў, што гэта вельмі складанае пытанне, адказ на якое ён бачыць у тым, каб не спрабаваць дзяліць непадзеленае, а ісці па шляху зняцця пагранічных бар'ераў і развіцця міжмузейнага супрацоўніцтва, рабіць гэтыя каштоўнасці больш даступнымі. «Аднак я не выключаю дыскусіі па гэтаму пытанню», — зазначыў А. Козыраў.

Некалькі чалавек адразу паскардзіліся на тое, што расійскае тэлебачанне і газеты часта зневажаюць беларускую дзяржаўнасць, мову, сцяг і г. д. Сваімі меркаваннямі на тэму расійска-беларускіх адносінаў падзяліўся Ніл Гілевіч: «Не такое простае гэта пытанне — нашы адносіны. Мы хочам, каб яны былі толькі дружалюбнымі і плённымі. Але мае назіранні паказваюць, што вельмі цяжка разумеюць нашы рускія браты наш боль. Гэта вельмі небяспечна — недаацэньваць тое, якія дрэнныя традыцыі вісяць над намі».

Былі і зусім непрыемныя для А. Козырава заявы накшталт такой: «У Расіі няма будучыні — дэмакратыя прывядзе да адасаблення перыферыі, а для дыктатуры краіна не вытрымае адпаведнага ваеннага бюджэту», «Трэба, каб расійскія палітыкі не падманвалі сябе тым, што ў Беларусі ўсе толькі і мараць аб'яднацца з Расіяй. Так, мы маем пэўныя агульныя гістарычныя карані, але мы маем іх і з брацкімі народамі Літвы, Украіны, Польшчы... Мы будзем разам з Расіяй, пакуль нашай дзяржаве гэта выгадна. Наш народ адрозніваецца ад рускага па сваёй ментальнасці, па тым, што няма ў нас вялікадзяржаўнасці»...

Чаму ў Расіі даюць трыбуну ў Дзярждуме такім палітыканам, як Гайдукевіч, чаму сюды едуць Э. Лімонаў і іншыя фашысцкія дзеячы, якія выступаюць ад імя расійскага народа, чаму Расія прысвоіла ўсе творы беларускага кіно, створаныя за 70 гадоў, чаму ў расійскіх беларусаў няма сваіх школ і газет — яшчэ шмат розных вострых пытанняў задалі А. Козыраву прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

— Ад каго яшчэ пачуеш праўду, як не ад братоў, — зазначыў А. Козыраў, які, відаць, быў уражаны такім прыёмам і завяршыў сваё выступленне роздумам аб нацыяналізме і той ролі, якую часам адыгрываюць у ім прадстаўнікі інтэлігенцыі, спасылаючыся на вядомы яму вопыт сербскага сепаратысцкага лідэра ў Босніі Р. Караджыча, які з'яўляецца пісьменнікам і натхняльнікам этнічных чыстак адначасова...

— Прыйшоў час перастаць гаварыць пра рускіх і беларусаў у катэгорыі братоў і сясцёр... Ёсць іншае добрае паняцце — суседзі, — такім было апошняе выказванне з боку прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
ЗВЯЗДА

"Мінская Праўда"

## Страсці ў Авальнай зале

Самым значным у рабоце парламента рэспублікі на гэтым тыдні стала прыняцце Закона "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь". У прынцыпова новым кантэксце дэпутаты падышлі да дзейнасці прэзідэнцкай адміністрацыі. Было вырашана, што ёй трэба надаць статус органа, які займаецца непасрэдным забеспячэннем дзейнасці кіраўніка дзяржавы. Іншымі словамі, парламентарыі ўсклалі на яе выключна інфармацыйныя і арганізацыйна-тэхнічныя функцыі. Прычым вызначана, што Адміністрацыя Прэзідэнта не мае права ўмешвацца ў дзейнасць Кабінета Міністраў і дубліраваць яго функцыі.

Больш за 40 мінут працягвалася выступленне Анатоля Новікава — старшыні Камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, якой было даручана сесіяй праверыць факты, выкладзеныя дэпутатам Сяргеем Антончыкам у дакладзе аб карупцыі. Анатоль Новікаў папярэдзіў калег, што яго інфармацыя мае прамежкавы характар, паколькі праверка поўнасцю не завершана. У сувязі з гэтым камісія пакуль не мае намеру рабіць ніякіх вывадаў, а проста інфармуе парламент аб праведзенай рабоце.

Страсці, не меншыя, чым па праблемах карупцыі, разгарэліся ў Авальнай зале ў час разгляду пытання аб стане спраў у аграрным комплексе рэспублікі. Даклад, які зрабіў міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Васіль Лявонаў, літаральна прывёў у шок дэпутатаў: недабор прадукцыі сельскай гаспадаркі ў Беларусі ў мінулым годзе ў параўнанні з 1990 годам склаў астранамічную лічбу — 1,5 мільярда амерыканскіх долараў.

Міністр вынес на суд дэпутатаў па сваёй сутнасці новую канцэпцыю развіцця сельскай гаспадаркі.

## Пра падзеі ў Беларусі -- па-беларуску.
## ' Амерыцы

**Добрую навіну паведаміў пры сустрэчы Юрка Азарка -- адзін з кіраўнікоў фонду Івана Любачха ў ЗША. У штаце Мічыган пачаў выходзіць новы часопіс беларускага замежжа ў Амерыцы -- "Беларускі дайджэст".**

Выдае і рэдагуе яго мой добры знаёмы, сваяк Якуба Коласа, прафесіянальны друкар Мікола Прускі. З яго друкарні некалі выйшлі вядомыя кнігі серыі "Беларускія паэты і пісьменнікі", падрыхтаваныя Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, у тым ліку выбраныя творы Наталлі Арсеньевай, Алеся Салаўя, Аляксандры Саковіч, Міхася Кавыля.

Дарэчы, спадар Прускі сам піша вершы. У кнізе "Беларуская Амерыка" я змяшчаю некалькі яго ранейшых твораў. Гэта будзе дэбют паэта ў Беларусі. Прыхільнікі беларушчыны ведаюць М.Прускага як шматгадовага рэдактара часопіса "Беларускі сьвет", які, па ўсім відаць, на вялікі жаль, спыніў сваё існаванне. На змену яму прыйшоў новы часопіс, які выходзіць штомесячна.

У бібліятэцы пісьменніка Янкі Золака ў Мільтауне я адшукаў камплект "Беларускага дайджэста" і з цікавасцю азнаёміўся з ім. У першым нумары /лістапад, 1993/ невялічкая праграмная заява выдавецтва "У часе, калі наша Бацькаўшчына паднялася з каленяў і пачала свой цярністы шлях да адраджэння, беларускае замежжа павінна дакладна ведаць, што адбываецца "там" і "тут". Сваю задачу новае выданне бачыць у тым, каб інфармаваць чытачоў аб навінах "з жыцця ды быцця беларускага адраджэнскага працэсу".

На старонках "Дайджэста" друкуюцца агляды і каментарыі палітычных падзей на Беларусі, інфармацыя з беларускіх асяродкаў замежжа, водгукі на ранейшыя публікацыі часопіса. Але асноўны змест выдання складаюць перадрукі з беларускіх газет "Свабода", "Пагоня", "Звязда", "Народнай" і "Настаўніцкай" газет, "Голас Радзімы" і інш. У сямі нумарах, якія выйшлі ў сёлетнім годзе, я налічыў толькі тры перадрукі з газеты "Рэспубліка". Гэта паказчык таго, што цікавых аналітычных матэрыялаў па-беларуску ва ўрадавай газеце змяшчаецца мала. А перадрукаў карэспандэнцый на расейскай мове "Беларускі дайджэст" не робіць. Беларускія амерыканцы хочуць чытаць пра падзеі на Беларусі па-беларуску! І новы часопіс імкнецца задаволіць іх цікавасць.

"Рэспубліка" ***Леанід ПРАНЧАК***

Нам паведамляюць, што ў Баранавічах арганізаваўся "Саюз беларускіх патрыётаў". Нацыянальна сьвядомая моладзь Баранавіч імкнецца стварыць патрыятычную арганізацыю. Брава адважнай беларускай моладзі Баранавіч!

## Козыраў гаварыў многа, але сказаў мала

"Свабода"

**23 студзеня ў менскім Доме літаратара адбылася сустрэча міністра замежных справаў Расеі Андрэя Козырава з творчай інтэлігенцыяй Беларусі.**

Ва ўступным слове А.Козыраў згадаў, што творчая інтэлігенцыя зьяўляецца носьбітам ідэй і культуры ў грамадстве. Што інтэлігенцыя і пацьвердзіла, калі пачаўся дыялёг з расейскім госьцем. Літаратары, мастакі, кінэматаграфісты ня толькі хацелі даведацца, што думае міністар наконт той ці іншай праблемы, але і выказвалі свае меркаваньні. Прысутныя цікавіліся: чаму пасьля распаду Саюза многія беларускія культурныя каштоўнасьці засталіся ў расейскіх бібліятэках, музэях, сховішчах? Чаму фільмы, зьнятыя беларускімі кінэматаграфістамі, цяпер не належаць Беларусі? Шмат было такіх *чаму*.

А.Козыраў дыпляматычна адказаў на шэраг пытаньняў. У прыватнасьці, ён адзначыў, што ён заўсёды прытрымліваўся пазыцыі мірных адносінаў з усімі краінамі, у тым ліку і з Чачнёй. А ў тым, што баявыя дзеяньні ў Чачні моцна ўзрушылі грамадзкую думку ў сьвеце, вінаватая ў першую чаргу расейская прэса. Зь ягоных словаў, "газэты перахлёстваюць", калі расказваюць пра чачэнскія падзеі. Пры гэтым, нібы дзеля рэабілітацыі, спаслаўся на Амэрыку — там, маўляў, падчас апэрацыі "Бура ў пустыні" сродкам масавай інфармацыі забаранялася поўнасьцю асьвятляць баявыя апэрацыі амэрыканскага войска. Адзін з членаў афіцыйнай дэлегацыі, якую ўзначальвае сп.Козыраў, прадстаўнік расейскага Камітэту па справах СНД дадаў да словаў міністра, што ў Абхазіі ў яго нібыта запыталіся: а дзе ж астатнія нашыя браты па СНД, чаму яны не бяруць удзелу ва ўтаймаваньні дудаеўцаў? І паведаміў пра прынятае рашэньне, якое датычыць вайсковага супрацоўніцтва ў межах СНД. На што атрымаў адказ — гул абурэньня ў залі.

Козыраў абвергнуў вядомы з падачы прэсы факт, што расейская Дума прыняла рашэньне правесьці ў сакавіку сумеснае паседжаньне зь беларускім парлямантам, каб абмеркаваць уваходжаньне Беларусі ў склад Расеі. На ягоную думку, гаворка ішла аб шляхах супрацоўніцтва паміж дзьвюма краінамі.

Разважаючы аб нацыяналізьме, расейскі міністар адзначыў, што, на ягоны погляд, самы небясьпечны нацыяналізм — інтэлігенцкі, бо інтэлігенты на ўсё, нават на ваенныя дзеяньні, маюць навуковыя гістарычныя апраўданьні, — і прывёў прыклад сэрбскага доктара Карадзіча.

У адказ на такія заявы паэт Анатоль Сыс прачытаў расейскаму міністру верш "Дзікі мёд". Было відаць, што сп.Козыраў стаў пачувацца вельмі няўтульна, але сказаць нічога насуперак ня мог.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

*Пасьля публікацыі ў мінулым нумары СВАБОДЫ інфармацыі пра сустрэчу расейскага міністра А.Козырава зь беларускай інтэлігенцыяй у рэдакцыю было шмат тэлефонных званкоў. Чытачы цікавіліся зьместам верша "Дзікі мёд", які прачытаў расейскаму міністру беларускі паэт Анатоль Сыс. Каб задаволіць цікавасьць публікі, друкуем гэты верш.*

*Анатоль Сыс*

## Дзікі мёд

*У вайну ў партызанскі год*
*пад крысом шыняля армейскага*
*бацька зь лесу прынёс дзікі мёд,*
*ледзь уцёк ад мядзьведзя расейскага.*

*З таго часу, як лесам іду,*

*дык пільнуюся вока зладзейскага,*
*скурай чую бяду, як ваду,*
*за сьпіною — мядзьведзя расейскага.*

*Дасюль пахне яму дзікі мёд.*

*Годзь гарэшнікі нашыя лушчыць!*

*Адкапаю пайду кулямёт,*
*каб хадзіць сьмела ў бацькавай пушчы.*

*БРАСЛАЎСКІЯ КАШУЛІ*

## НА КАНАДСКІ РЫНАК

**Прадукцыя Браслаўскага камбіната прамысловых тавараў выйшла нядаўна на знешні рынак. Першая пробная партыя з дзвюх тысяч фланелевых кашуль, выпускаемых у Браславе, спадабалася канадскай фірме. Яна і заключыла кантракт з камбінатам на пастаўку шасці тысяч такіх вырабаў штомесяц, пачынаючы са студзеня гэтага года.**

**Шукайце браслаўскія кашулі, землякі, ў Канадзе!**

## АКАДЭМІКІ НЬЮ-ЙОРКСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК АТРЫМЛІВАЮЦЬ ЖАБРАЦКІ ЗАРОБАК

Супрацоўнікі Гродзенскага інстытута біяхіміі, дактары навук Вячаслаў Буко і Сяргей Зіматкін, кандыдаты навук Алена Лапшына і Іван Сцяпура абраны акадэмікамі нью-йоркскай Акадэміі навук, у саставе якой, дарэчы, больш як 40 нобелеўскіх лаўрэатаў. Віншуем нашых землякоў, чые навуковыя дасягненні так высока адзначаны. Пры гэтым заўважым, што наваспечаныя акадэмікі сёння атрымліваюць жабрацкі заробак — ад 150 да 250 тысяч «зайцоў».

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# Сустрэчы У. Сянько ў Брусэлі

Прыбыўшая ў Брусель для падпісання рамачнага дакумента аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і НАТО па праграме «Партнёрства дзеля міру» дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з міністрам замежных спраў У. Сянько правяла шэраг сустрэч у кіруючых органах Еўрапейскага саюза і Міністэрстве замежных спраў Бельгіі.

Адбылася, у прыватнасці, грунтоўная размова з адным з самых аўтарытэтных членаў Еўрапейскай камісіі (ЕК) Хансам ван Дэн Брокам, які ў новым саставе ЕК куруе пытанні палітыка-эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю і іншымі краінамі СНД. Бакі з задавальненнем адзначылі дасягнуты ў апошні час прагрэс у паглыбленні ўзаемадзеяння нашай рэспублікі з заходнееўрапейскім супольніцтвам. У практычным плане абмеркаваны комплекс пытанняў, звязаных з падрыхтоўкай да падпісання Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам, якое дамоўлена ажыццявіць у першай палове сакавіка г.г. у Брусэлі. У ходзе сустрэчы з Х. ван Дэн Брокам акцэнт быў зроблены на абгрунтаванні неабходнасці прыняцця Еўрапейскім саюзам праграмы фінансавай падтрымкі эканамічных рэформаў, праводзімых новым кіраўніцтвам Беларусі, ліквідацыі бар'ераў у гандлі паміж ЕС і Беларуссю, у тым ліку ліквідацыі антыдэмпінгавых мераў у адносінах да калійных угнаенняў. Прадстаўнікі ЕК у цэлым з поўным разуменнем аднесліся да выкладзеных ім падыходаў, падкрэсліваючы, са свайго боку, патрэбнасць яснага вызначэння параметраў рэалізацыі рэспублікай рыначных рэформаў, а таксама прынцыповую важнасць заключэння пагаднення з Міжнародным валютным фондам аб выдзяленні крэдытаў STF і stand-by.

Насычанымі і дынамічнымі былі перагаворы ў Еўрапейскім парламенце (ЕП). Як паказала сустрэча з дэлегацыяй ЕП па сувязях з Беларуссю, заходнееўрапейскае супольніцтва з вялікай цікавасцю сочыць за развіццём падзей у нашай рэспубліцы пасля прэзідэнцкіх выбараў, за праблемамі ўмацавання нашай дзяржаўнасці і суверэнітэту, вельмі цікавіцца праблемамі намечаных на 14 мая г.г. першых дэмакратычных парламенцкіх выбараў. У той жа час К. Лелюм'ер і некаторыя іншыя нашы партнёры падкрэслівалі неабходнасць прыняцця інтэнсіўных намаганняў з мэтай фарміравання на Захадзе больш выразнага іміджу Беларусі і шырокага распаўсюджвання інфармацыі аб дэмакратычных працэсах, што адбываюцца ў ёй, аб яе гандлёва-эканамічным і навукова-тэхнічным патэнцыяле. Прадстаўнікі Еўрапарламента гаварылі аб гатоўнасці накіраваць сваіх назіральнікаў на маючыя адбыцца выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі.

Значная ўвага ў ходзе сустрэч у ЕП і ЕК была ўдзелена абмеркаванню актуальных праблем еўрапейскай бяспекі, пытанням адносінаў Беларусі з яе суседзямі, у тым ліку з Расійскай Федэрацыяй у сувязі з канфліктам у Чэчні.

У канструктыўнай і дружалюбнай атмасферы праходзіла таксама сустрэча У. Сянько з віцэ-прэм'ерам, міністрам замежных спраў Бельгіі Ф. Вандэнбрукам. Бельгійскі бок выказаў вялікую зацікаўленасць у наданні імпульсу развіццю двухбаковых палітычных і эканамічных адносінаў з Рэспублікай Беларусь. Ф. Вандэнбрук падкрэсліў супадзенне інтарэсаў дзвюх краін па многіх пытаннях, у прыватнасці ў сувязі з тым, што Беларусь і Бельгія ў адной групе выбаршчыкаў у Міжнародным валютным фондзе.

Бакі акцэнтавалі неабходнасць хутчэйшай падрыхтоўкі і падпісання пакета двухбаковых палітычных і эканамічных пагадненняў з мэтай стварэння юрыдычнай базы для доўгатэрміновага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва дзвюх краін, абмеркаваны прыярытэты такога супрацоўніцтва і намечаны канкрэтныя пагадненні, якія маглі б быць падрыхтаваны і падпісаны ўжо ў бліжэйшы час, у прыватнасці міждзяржаўны рамачны дагавор аб супрацоўніцтве, пагадненні аб узаемнай абароне інвестыцый і пазбяганні двайнога падаткаабкладання.

У той жа дзень першы намеснік міністра абароны, начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл Беларусі Л. Мальцаў, які ўваходзіць у састаў дэлегацыі, меў серыю сустрэч і размоў у штаб-кватэры НАТО.

**Аддзел інфармацыі МЗС Беларусі.**

# Лякарствы для Гайнаўкі

**— Пачкі з лякарствамі прыходзілі ў Гайнаўку рэгулярна, раз у год, — паведаміла ардынатар Дзіцячага аддзела гайнаўскай бальніцы спадарыня Хрысціна Бадакоўская. Лякарствы праз пасрэдніцтва фундацыі International Aid (Міжнародная дапамога) накіроўваў у Гайнаўку спадар Мікола Прускі са Злучаных Штатаў Амерыкі. Мікола Прускі — асоба вядомая ў кругах беларускай эміграцыі ў ЗША як друкар, выдавец часопіса „Беларускі Свет" і газеты „Беларускі Дайджэст".**

— Агулам атрымалі мы чатыры пасылкі, — сказала ардынатар Х. Бадакоўская. — Усё гэта пачалося ў снежні 1991 года, калі атрымалі мы сем пачак. Што ў іх было? Перад усім былі там лякарствы асноўнага ўздзеяння, якія больш прыдатныя ў амбулаторным лячэнні, а не ў бальніцы. Тым не менш былі там і антыбіётыкі, з якіх мы карысталіся на дзіцячым аддзеле ў нашай бальніцы. Усе гэтыя прэпараты мы раздзялілі для паасобных пунктаў аховы здароўя ў нашым раёне. Наступная пасылка прыйшла ў чэрвені 1992 года, склалася на яе 9 пачак. Былі ў іх перад усім супрацьліхаманкавыя лякарствы, крышку антыбіётыкаў, але таксама і пластыры, рукавічкі ды шмат што іншае. Як і папярэднім разам, мы гэта падзялілі паміж пункты аховы здароўя ў нашым раёне. Чарговая пасылка, якую мы атрымалі ў маі 1993 года, складалася з 11 пачак. Быў там сапраўды вялікі набор лякарстваў і, трэба гэта адзначыць, набор гэты быў выпрафіляваны — галоўным чынам былі там лякарствы для дзяцей. Гэтым разам лякарствы трапілі таксама ў пункты па-за Гайнаўкай: Нарву, Нараўку, Чаромху, Чыжы. Чацвёртую пасылку лякарстваў атрымалі мы ў маі 1994 года. Атрымалі мы 12 пачак — прыняцце гэтых дараў супала ў часе з прыездам да нас жонкі спадара Міколы Пruскага — Веры. У пачках, акрамя лякарстваў, было шмат гігіенічных сродкаў, як мыла, шампуні, крэмы... Гэта нас у нашай цяжкай матэрыяльнай сітуацыі моцна падратавала. Сродкамі гэтымі, дарэчы, карыстаемся яшчэ і сёння.

Што ж, усё яшчэ жывем і карыстаемся бясплатнай аховай здароўя — прынамсі фармальна. Фактычна ж, кожны з нас штораз мацней адчувае кошты лячэння — нават у такіх, здавалася б, банальных выпадках як прастуда. Паводле слоў спадарыні Х. Бадакоўскай штораз часцей здараюцца такія сітуацыі, як гэтая: лекар выпісвае рэцэпт для дзіцяці, а маці кажа яму: „Навошта вы гэта пішаце. І так няма за што купіць". Тым большага значэння набывае тут дапамога, якую арганізаваў для Гайнаўкі спадар Мікола Прускі з ЗША.

*"НІВА"* **Аляксандр Максімюк**

# БОЛЬШ ЯК 80 ДЭПУТАТАЎ ПАСТАВІЛІ ПОДПІСЫ ПАД ЗВАРОТАМ У КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД У АБАРОНУ СВАБОДЫ ПРЭСЫ

"ЗВЯЗДА"

Учора, як і ў папярэднія дні, у зале Вярхоўнага Савета ішоў збор подпісаў дэпутатаў пад зваротам у Канстытуцыйны суд з патрабаваннем прыняць да разгляду справу аб апошніх кроках адміністрацыі, што датычаць забароны на друкаванне шэрага незалежных газет, «белых плямаў» і г.д.

Я пацікавіўся ў дэпутата Сяргея Навумчыка, які стаў ініцыятарам гэтай акцыі, як ідзе збор подпісаў і якую мэту ставяць перад сабой дэпутаты, што падтрымалі яго ініцыятыву.

— Сабрана ўжо больш як 80 подпісаў — пры неабходных 70, прадугледжаных законам. Прычым павінен заўважыць: у абарону праву журналістаў выступілі прадстаўнікі розных палітычных плыняў. Зварот падпісалі не толькі Зянон Пазняк, Генадзь Карпенка, Станіслаў Шушкевіч, але і Ніл Гілевіч, Віталь Піскароў, Генадзь Казлоў, Уладзімір Паўлаў, Яўген Бачароў, Барыс Гетц, дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі — Аляксандр Траццякоў, Мікалай Лакцюшын, Валянцін Сарокін... Падчас заканчэння паўнамоцтваў гэтага Вярхоўнага Савета шмат хто з дэпутатаў усвядоміў, што свабода слова — гэта тая каштоўнасць, без якой усе астатнія свабоды і правы грамадзян, незалежна ад поглядаў, становяцца нерэальнымі.

**— Аб чым вы просіце Канстытуцыйны суд?**

— Мы просім разгледзець канстытуцыйнасць Указа Прэзідэнта № 19 ад 4 жніўня 1994 года аб Кіраўніцтве справамі і яго адпаведнасці артыкулу 33 (часткі 3) Канстытуцыі — у частцы перадачы выдавецтва «Беларускі Дом друку» Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта, а таксама іншых указаў і распараджэнняў Прэзідэнта, якія вядуць да манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і ўжывання цэнзуры. Тут можна прыгадаць і падпарадкаванне Прэзідэнту Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, інфармацыйнага агенцтва «Белінфарм», шэрага перыядычных выданняў. Што датычыць цэнзуры — усім памятныя «белыя плямы» на старонках газет. ... Акрамя таго, мы просім разгледзець на прадмет канстытуцыйнасці распараджэнне намесніка Кіраўніка спраў Прэзідэнта Уладзіміра Лазоўскага аб забароне на пралангацыю дагавораў выдавецтва «Беларускі Дом друку» з шэрагам выданняў.

**— На якой стадыі на сённяшні дзень справа са зваротам у Канстытуцыйны суд?**

— Пасля таго, як сабрана неабходная колькасць подпісаў, я мушу выканаць некаторыя фармальнасці — завершыць гэтыя подпісы ў Старшыні Вярхоўнага Савета, падрыхтаваць больш падрабязную, чым сам зварот, тлумачальную запіску. Адначасова я пачаў кансультацыі з экспертамі, юрыстамі, — з тымі, хто будзе абараняць нашы інтарэсы падчас працэсу.

**— У выпадку, калі Канстытуцыйны суд прызнае слушнасць вашых довадаў, чым гэта можа пагражаць кіраўнікам выканаўчай улады?**

— Хацеў бы адзначыць: мэта нашага звароту — не пагрозы Прэзідэнту і іншым кіраўнікам. Мы хочам дабіцца, каб яны ўсвядомілі простую ісціну: што кожны грамадзянін мае права на атрыманне поўнай і своечасовай інфармацыі. І ні ў якім разе нельга прымаць да сродкаў масавай інфармацыі рэпрэсіўныя меры. Гэта — галоўнае. Хочацца спадзявацца, што Прэзідэнт гэта зразумее. Пакуль што, на жаль, яго дзеянні накіраваны на зацісканне прэсы. Відаць, гэта звязана з падрыхтоўкай да выбараў. Калі Прэзідэнт пойдзе і далей на парушэнне Канстытуцыі — што ж, у Канстытуцыі вызначана ступень адказнасці за такія дзеянні. У любым выпадку, які б вердыкт не вынес высокі Суд — я палічу неабходным выступіць з гэтай ініцыятывай, бо гэта на сённяшні дзень адзіны спосаб абараніць прэсу і правы журналістаў, усіх грамадзян.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО.**

# Саюз журналістаў папярэджвае: вяртаецца дыктатура

"Свабода"

**«На зьмену партыйнаму дыктату прыйшла яшчэ больш жорсткая прэзыдэнцкая цэнзура», — так расцэньвае апошнія падзеі Саюз журналістаў Беларусі.**

У Звароце Саюзу журналістаў да міжнародных журналісцкіх арганізацыяў адзначаецца: «Пад жорсткім кантролем адміністрацыі прэзыдэнта знаходзіцца найбуйнейшая ў рэспубліцы паліграфічная база — Беларускі Дом друку. Дастаткова аднаго званка ад каманды прэзыдэнта, якую ён падабраў па прынцыпе адданасьці яму, — і друкаваньне любой газэты імгненна перапыняецца. Па распараджэньні прэзыдэнта адмовілі ў праве друку незалежным газэтам «Свабода», «Фемида», «Белорусская деловая газета» і іншым выданьням. Гэта грубае парушэньне канстытуцыйнага права чалавека на свабоднае атрыманьне інфармацыі, праява таталітарызму і дыктатарства.

Трывожна і небясьпечна, што ўсё гэта ідзе ад першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, у добрыя намеры якога паверылі многія людзі, якія выбралі яго на гэтую пасаду. Цяпер, многае страціўшы, даведзеныя да жабрацтва і адчаю, людзі пазбаўляюцца магчымасьці атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю».

# «СВІНЦОВЫЯ» КАНСЕРВЫ

"ЗВЯЗДА"

Нечаканыя вынікі выявіла экспертыза дзіцячага харчавання, кантэйнер з якім прыбыў у Барысаў па лініі гуманітарнай дапамогі з ЗША. Пасля экспертызы на ўтрыманне солей цяжкіх металаў выявілася, што з 15 найменняў прадуктаў трэць не адпавядае санітарна-гігіенічным патрабаванням: у яблычным і вінаградным соках, пюрэ з агародніны з ялавічынай і курыным мясам знойдзена перавышэнне ўтрымання свінцу.

Па словах загадчыцы аддзялення Барысаўскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Л.Русецкай, прадукцыя, якая паступіла ад амерыканскай фірмы «Сіці-хоўп інтэрнэшнл», хутчэй за ўсё, будзе знішчана ці скормлена жывёле ў разбаўленым выглядзе.

**Анатоль УЛАДЗІМІРАЎ, БелаПАН.**

Такія паведамленьні прэсы, наносяць дапамагова-харытатыўнай акцыі для Беларусі вялікі ўрон. Таму "Сіці Гоўп, Інтэрнэйшэнал" павінна даць для Беларусаў ЗША і Канады дакладнае выясьненьне ў гэтай справе. Спадзяемся, што ў гэтай акцыі ня былі выкарыстаны грошы нашых грамадзкіх арганізацыяў...

# НАМ ПРЫСЛАЛІ...

1. Голас Часу, № 34(1), Студзень-люты 1995 г. Часопіс выдаецца ў Англіі. Зьмест рознаякі. Адчуваецца накірунак абароны Праваслаўя, але перад кім цяжка зразумець. А так, часопіс робіць добрую беларускую справу. Рэдагуе часопіс Юрка Весялкоўскі.

2. Зважай, № 1(77), Сакавік 1995 г. Часопіс беларускіх вэтэранаў, выдаецца ў Канадзе. Падбор матэрыялаў у большасьці адпавядае загалоўку. Рэдагуе часопіс Кастусь Акула.

3. Belarusian Review, No 4, Winter 1994-95. Выданьне зьмяшчае шмат добрых інфармацыйных матэрыялаў. Выключна англамоўны часопіс друкуецца пераважна на 24-ох старонках. Часопіс рэдагуе Я. Арцюх у Каліфорніі, ЗША.

## ЦІКАВА

Лявон Зданевіч у сваім артыкуле "Белыя плямы мінулага – чорныя плямы будучыні" піша:

(дзеля нястачы месца, тут прыводзім толькі самую маленькую частку вельмі цікавага і абшырнага артыкулу ў "Народнай Газэце")

...Неэфектыўная сельская гаспадарка і адпаведная "калгасная" палітыка кіраўнікоў краіны з'яўляюцца сёння галоўнай падставай інфляцыйнага працэсу, галоўным тормазам рынкавых рэформаў.

Люмпенская псіхалогія большасці насельніцтва прывяла да таго, што Беларусь — адзіная ў Еўропе краіна, якая не здолела ўвайсці ў працэс рэфармавання і дэмакратызацыі і не здолела таму, што народ не здолеў вылучыць са свайго асяроддзя такіх палітыкаў, якія б маглі павесці краіну ў накірунку рэформаў. Адсутнасць нацыянальнай свядомасці, пачуцця Радзімы прыводзяць да таго, што кіруюць дзяржавай антыпатрыёты, для якіх не існуе разумення інтарэсаў нацыі, Радзімы, якія не здольныя зразумець, што самастойная дзяржаўная палітыка — найвялікшая каштоўнасць у сэнсе выкарыстоўвання яе дзеля эканамічных інтарэсаў насельніцтва..

Зразумела, канстатацыя становішча не дапаможа знайсці выйсце, але разуменне працэсу і шляхоў дасягнення такога ганебнага для краіны ў цэнтры Еўропы становішча ёсць падстава пошуку выйсця, пошуку накірункаў адраджэння.

Праз некалькі месяцаў адбудуцца выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь — чарговае выпрабаванне народа Беларусі дэмакратыяй. Людзі павінны зразумець уласную адказнасць за стан свайго жыцця і, я спадзяюся, назаўсёды развітацца з бальшавіцкай хваробай, развітацца з надзеяй палепшыць дабрабыт не праз уласную працу ва ўласнай дзяржаве, а праз нейкія саюзы, аб'яднанні, далучэнні.

Моцная, дэмакратычная дзяржава патрэбна людзям як абаронца іх інтарэсаў, іх уласнасці, культурных каштоўнасцей грамадства; грамадзяне-патрыёты, гаспадары і ніхто іншы, могуць утварыць такую дзяржаву.

## У БРЭСЦЕ ЎСЁ БОЛЬШ УЛАСНІКАЎ

На дзесятым па ліку аўкцыёне ў Брэсце было выстаўлена 15 аб'ектаў камунальнай уласнасці. Як заўсёды, найбольшую цікавасць для пакупнікоў мелі прамтаварныя і харчовыя магазіны, кафэ, якія знаходзяцца ў выгадных, з пункту гледжання прадпрымальніцтва, месцах горада. Аднак самая вострая барацьба разгарэлася за права валодання будынкам былой кацельні з вялікай вытворчай плошчай і зямельным участкам. На гэты аб'ект прэтэндавалі шэсць пакупнікоў. У сувязі з попытам цана лотаў у ходзе таргоў павысілася ў сярэднім у 21 раз у параўнанні са стартавай. Будынак былой кацельні прададзены за 290 мільёнаў рублёў.

На думку спецыялістаў, якія ажыццяўляюць малую прыватызацыю, менавіта аўкцыёны даюць магчымасць выявіць рэальны рынкавы кошт аб'ектаў камунальнай уласнасці. Цікава таксама і тое, што з кожным новым аўкцыёнам у барацьбу ўсё смялей уключаюцца працоўныя калектывы. На новых таргах уласнікамі сталі калектывы магазінаў "Выпадковыя рэчы", "Прамтавары" і "Гаставары".

# АРМІЯ КРАЁВА НА БЕЛАРУСІ

Алесь ЧОБАТ

(Заканчэньне, пачатак глядзі ў папярэднім №)



**"Сустрэўшы атрад "Леха", — піша партызанка VIII УВК З. Кабыляньска ў "Запісках санітаркі", — далей ішлі разам. Здзіўлялі нас паводзіны "мясцовых" на маршы: ішлі днём, дарогай, не толькі не маскіруючыся, але спяваючы на ўсю моц, на кватэры займалі цэлыя вёскі, вартавых амаль не выстаўлялі. Маршы рабілі конна ці на вазах. Мелі добрыя боты, добрыя мундуры і кажухі, былі сытыя і самаўпэўненыя. У параўнанні з імі мы выглядалі, як абарванцы. Але наперадзе ляцела чутка, што варшавякі голыя і босыя, але маюць першакласную зброю і біцца ўмеюць...".**

Эпізод вельмі характэрны для становішча ў раёне, адкуль немцы практычна эвакуіраваліся, утрымліваючы толькі гарады і большыя мястэчкі — справа ў тым, што **калі 23 лютага 1944 года К. фон Готберг абвясціў мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону, Лідская акруга была выключана з плана мабілізацыі, каб там правіла "сваю" мабілізацыю Армія Краёва, "саюзнікі"!**

А вось яшчэ характэрны эпізод. VIII УБК займаў вёску Моцевічы пад Нёманам. Раптам пачуліся стрэлы і вартавы далажыў, што "до Немна ідом чэрвоні!" — "Саблеўскі" вырашыў, што немцы высясняюць нейкую савецкую адзінку і загадаў адступіць з вёскі ў лес і там заняць абарону: калі "чэрвоным" трэба праз брод за Нёман — няхай ідуць, калі будуць наступаць на нас — пераб'ём. "Чырвоныя" пераправіліся, а следам за імі прыйшлі не немцы, а ... батальён паручніка Ч. Заёнчкоўскага (пс. "Рагнэр")! Апошні налецеў на "Саблеўскага" ледзь не з кулакамі: маўляў, я ж заганяў бальшавікоў на цябе, а ты іх выпусціў! Варшавяк адказаў, што яго людзі з "рускімі" не ваююць. Пасля гэтага VIII УБК адвялі на поўнач ад шашы Ліда—Шчучын, дзе савецкіх партызан не было — далей ад грэху...

За паўгода, ад пераходу з-пад Варшавы пад Ліду і да ліпеня 1944 года, VIII УБК знішчыў моцныя гарнізоны ў Дворышчах, Субботніках, Кяне, разбіў калону з 80 аўтамашын, правёў паўтара дзесятка баёў. 1 ліпеня "Саблеўскі" акружыў у Трабах батальён СС і разбіў яго ўшчэнт, палонячы камандзіра і яшчэ 152 чалавекі. **Перад "маршам на Вільню" VIII УБК меў 699 чалавек — былі на ўзбраенні гарматы, мінамёты, каля 300 штук аўтаматычнай зброі, здабытай у баях.**

У канцы зімы Галоўная Камендатура АК загадала правесці следства ў справе афіцэраў, якія бралі ад немцаў зброю. Старшынёй палявога суда быў Б. Пясецкі-"Саблеўскі", прысутнічалі таксама камандзір Навагрудскай акругі Я. Праўдзіц-Шляскі і прадстаўнік ГК АК маёр М. Каленкевіч-"Котвіч" — перад судом паставілі "Леха", "Рагнэра" і К. Стыпулу (пс. "Грубы Бартэк"). Раён в. Вайковічы, дзе адбываўся суд, прыкрывала рота з VIII УБК — прыкрывала недарэмна: "Рагнэр" явіўся на чале сваёй коннай разведкі...

"Лех" усю віну ўзяў на сябе і быў асуджаны на расстрэл. Але тут маёр М. Каленкевіч-"Котвіч" заявіў, што як прадстаўнік ГК ён **"прыпыняе"** рашэнне суда да канца вайны і... адсылае Ю. Свіду-"Леха" ў Варшаву! А на месца яго ставіць "Рагнэра"...

Між тым пачалася мабілізацыя. Вось як апісаны гэтыя дні ў справаздачы прадстаўніка ГК у Варшаву:

**"Шчучынскі павет уваходзіць у склад Лідскага гебітскамісарыята. Гэта астравок Рэчы Паспалітай, дзе мясцовыя нямецкія ўлады дэманструюць максімум цярплівасці і разумення ў адносінах да арганізаваных і ўзброеных палякаў. Шчучынскі павет нагадвае наваколле Жлобіна і Бабруйска часоў Доўбура-Мусніцкага. Нямецкая ўлада існуе толькі ў мястэчках, а савецкая на левым беразе Нёмана. Польскія атрады праводзяць рэгулярную мабілізацыю — солтысы афіцыйна разносяць позвы. Кожную нядзелю, кожнае свята ідзе палявая імша. Млыны, маёнткі і гаспадаркі плоцяць на войска падаткі натурай і грашыма. Варшавякі з УБК сцвярджаюць, што нідзе ў Польшчы няма такіх добрых умоў для фарміравання падпольнай арміі, як у Шчучынскім павеце. Справа тут не толькі ў настроях людзей, але ў нямецкай паблажлівасці. Са шчучынскай турмы немцы выпусцілі дзевяць хлопцаў пры ўмове, што яны пойдуць да "бялых" (у дакументах немцы называлі АК "weisspolen" ці "белапалякі"! — Аўт.)".**

Пазней Я. Праўдзіц-Шляскі пісаў, што сілы Навагрудскай АК налічвалі 7,7 тыс. чалавек, **пры гэтым 40% (!) складалі мабілізаваныя праваслаўныя беларусы**, а на адзін Лідскі павет прыходзілася 6,5 тыс. байцоў! У планах К. фон Готберга было фарміраванне дапаможных польскіх паліцэйскіх адзінак, камісар у Вільні Лёзэ насіўся з ідэяй стварыць "польскае прадстаўніцтва" пры сваім "Остляндзе" і нават выкарыстаць АК для абароны (!) Вільні...

## IV. АПЕРАЦЫЯ "ВОСТРАЯ БРАМА".

20 лістапада 1943 года камандуючы АК генерал Т. Камароўскі выдаў дырэктыву 1300/III пра падрыхтоўку аперацыі "Бура" — раптоўнага ўдару на нямецкія тылы і захоп найбольш значных гарадоў і чыгуначных вузлоў у момант, калі "праз іх будзе праходзіць фронт Чырвонай Арміі". **Камандаванне АК лічыла, што савецкія вайсковыя ўлады будуць трактаваць палякаў як саюзнікаў, а падтрымка англа-амерыканцаў і ўласны мілітарны патэнцыял АК гарантуюць устанаўленне ў занятых гарадах цывільнай улады і стварэнне рэгулярнай арміі, якая будзе падпарадкоўвацца Лондану.**

Першы кантакт АК з рэгулярнай Чырвонай Арміяй адбыўся на Валыні. Ужо 4 студзеня 1944 года савецкія войскі перайшлі старую польскую мяжу, 12 лютага занялі Луцк і выйшлі ў раён 27-й дывізіі пяхоты АК. Дывізія пад камандаваннем маёра Я. Ківерскага (пс. "Оліва") налічвала 6 тыс. чалавек, сканцэнтраваных на поўнач ад Ковеля. **20 сакавіка два батальёны 27-й дывізіі пры падтрымцы савецкай артылерыі занялі ст.Турыск і пачалі баі за Ковель. 26-27 сакавіка адбыліся размовы палякаў з генерал-лейтэнантам Сяргеевым; у выніку цяжка дасягнутага кампрамісу 27-я заставалася на фронце як частка "Польскіх Сіл Збройных, падпарадкаваных Лондану і Варшаве".** Баі за Ковель з пераменным поспехам ішлі да 7 красавіка, пасля чаго немцы нанеслі танкавы контрудар і адсеклі палякаў і два савецкія кавалерыйскія палкі ад фронту. Не было зроблена аніякай спробы іх вызваліць. Страціўшы паўтара батальёна, 27-я дывізія прарвалася на поўнач і выйшла на Падляшша, дзе працягвала партызанскую вайну. **Ніякіх палітычных наступстваў гэта аперацыя не прынесла.** Цікава, што ў мемуарах камандуючага фронтам маршала К. Ракасоўскага гаворыцца, што ў разгар баёў за Ковель яны з начальнікам штаба "раптам" прыйшлі да высновы, што са стратэгічнага пункту гледжання... браць Ковель няма патрэбы! Гэта ўсё вельмі падазрона. Хутчэй за ўсё І. Сталін яшчэ не меў гатовай канцэпцыі ў "польскай справе", а таму не хацеў мець зацяжных кантактаў з палякамі, якія не падпарадкоўваліся яму палітычна. А таму на флангах 27-й дывізіі АК савецкія войскі "адступілі" і такім спосабам "вярнулі" палякаў у партызанку.

Пасля "ковельскай гісторыі" ГК АК выдала батальёнам дадатковы загад, якім забаранялася складаць зброю перад савецкім камандаваннем альбо пераходзіць на яго бок. Загад мала што высвятляў, паколькі захоўваліся ўсе ранейшыя інструкцыі, а разам з "**план "Бура" пачынае дзейнічаць, як толькі лінія фронту дасягне вызначанага аб'екта атакі**", а пры такіх умовах АК не магла дзейнічаць самастойна, без Чырвонай Арміі, што пацвердзілі пазнейшыя падзеі.

**У планах ГК АК і асабліва лонданскага ўрада ключавое значэнне мелі Вільня і Львоў — гэтыя гарады вызначалі прыналежнасць "крэсаў" да Польшчы. Аперацыя па авалоданні Вільняй мела крыптанім "Вострая Брама".**

Генерал Т. Камароўскі аддаў загад пра авалоданне Вільняй 12 чэрвеня 1944 года. Аперацыяй "Вострая Брама" меў камандаваць палкоўнік А. Крыжаноўскі-"Вільк", начальнікам штаба і аўтарам плана аперацыі быў маёр М. Каленкевіч-"Котвіч". Штурм Вільні ўскладаўся на сілы АК Віленскай і Навагрудскай акруг, яны разам павінны былі лічыць **18 тыс. чалавек; з іх 12 тыс. у самой Вільні** мелі ўдарыць у тыл немцам.

Паводле плана "Котвіча", сілы АК павінны былі скрытна сканцэнтравацца за 15—20 км ад Вільні і ноччу адначасова і раптоўна ўдарыць трыма групамі, авалодаць умацаваннямі і днём ачысціць горад напярэдадні падыходу савецкіх войск.

Сігнал пра пачатак "Вострай Брамы" "Вільк" атрымаў з Лондана 2 ліпеня — у гэты дзень войскі 3 Беларускага фронту перайшлі старую польскую мяжу пад Радашковічамі. Палкоўнік "Вільк" аддаў загад: штурм Вільні — ноччу з 6 на 7 ліпеня, пачатак атакі ў 23.00. Але 5 ліпеня разведка АК паведаміла, што да Вільні прыбываюць свежыя нямецкія войскі: танкі, артылерыя, парашутысты... Па асобных звестках, немцы мелі ў Вільні на пачатку баёў каля 60 танкаў, 2 бронецягнікі, 270 гармат, каля 25 штурмавых самалётаў і да 5—6 тыс. чалавек.

Па плану "Вострая Брама" сілы АК мелі сканцэнтравацца ў тры групы: 1-я маёра А. Аляхновіча ("Пахарэцкі"), 2-я маёра М. Патоцкага ("Вэнгельны") і 3-я маёра Ч. Дэмбіцкага ("Ярэма"). Але ў ноч наступлення з усходу ўдарылі толькі 1-я і 3-я групы ў аслабленым складзе; 2-я група знаходзілася за 60 км ад Вільні і спазнілася ў раён канцэнтрацыі на адзін дзень.

У складзе "ўсходняй групы" былі: 3-я брыгада "Шчэрбец" — 800 чалавек; 8-я Ашмянская — 400; 9-я — 270; эскадрон "Гром" — 100; 1-ы батальён 77 палка — 350; 3-ы батальён 77 палка (былы VIII УБК) — 700; 5-ы батальён 77 палка — 600; у рэзерве 13-я Маладзечанская брыгада — 450 чалавек... **Разам 3620 чалавек і яшчэ каля 400 чалавек у самой Вільні замест планаваных 18 тыс. байцоў. Да таго ж, "Вільк" перанёс наступленне на адзін дзень раней, таму што 5 ліпеня савецкія войскі былі ўжо ў Смаргоні, а камандаванню надта ж хацелася ўзяць Вільню сваімі сіламі— у сувязі з пераносам атакі віленскае падполле не здолела сканцэнтраваць свае сілы ў тую ж ноч.** Дарэчы, і тут справа выглядае падазрона: батальёнамі АК у горадзе камандаваў падпалкоўнік Крэчоўскі-"Людвік", як пазней высветлілася, агент НКВД...

У начным баі батальёны АК прарвалі вонкавую лінію нямецкай абароны, але раніцай не здолелі прабіць пас асноўных умацаванняў — сістэму бетонных агнявых кропак, злучаных траншэямі. Немцы падцягнулі артылерыю і бронецягнік, з паветра атакавалі самалёты. Батальёны захлыналіся крывёй і на дванаццатай гадзіне беспераліннага бою пачалі адступаць. Толькі "Шчэрбец" і надышоўшыя дзве роты з рэзерву здолелі ўтрымаць захопленыя пазіцыі да змроку.

Між тым вечарам 7 ліпеня на прадмесцях Вільні з'явілася савецкая разведка, а з поўначы завілейскую частку горада ноччу атакавалі АК-оўцы з 2-й групы "Вэнгельнага", якая спазнілася на суткі і цяпер наступала разам з батальёнамі 27-й савецкай дывізіі. 8 ліпеня насустрач наступаючым з горада ўдарыў батальён капітана Б.Загорнага /пс. "Ян"/. Баі на вуліцах працягваліся да 13 ліпеня, апошнім пунктам нямецкай абароны быў універсітэт у старым горадзе.

Пасля канца баёў палкоўнік А.Крыжаноўскі-"Вільк" зноў пачаў сцягваць атрады АК да Вільні, спадзеючыся сфарміраваць з іх 19-ю дывізію пяхоты /як прадугледжваў план "адроджэння польскіх сіл збройных" ГК АК/, але **пасля 15 ліпеня савецкія войскі не прапускалі АК-оўцаў да Вільні. У той жа дзень вечарам "Вільк" з групай афіцэраў быў арыштаваны ў штабе 3 Беларускага фронту.** На месца канцэнтрацыі ў Медніках тым часам былі сцягнуты фарміраванні АК з тэрыторыі ад Стоўбцаў да Нарачы, якія разам налічвалі да 7 тыс. чалавек. Некалькі дзён афіцэры з 1 Польскай Арміі генерала З.Берлінга /1 Беларускі фронт/ агітавалі іх пераходзіць у 1 Польскую Армію. Але калі стала вядома пра арышт "Вілька" і пра тое, што побач канцэнтруюцца войскі НКВД, палякі некалькімі калонамі рушылі на захад, спадзеючыся перайсці фронт. Камандаваў адыходам падпалкоўнік З.Блюмскі-"Стрыханьскі". Апошнюю калону вёў маёр М.Каленкевіч-"Котвіч". Праз некалькі дзён калоны разбіліся на малыя групы і адступалі паасобку — войскі НКВД мелі значную перавагу, бранятэхніку, разведсамалёты, амфібіі і г.д. Большая частка рэгулярных сіл АК перастала існаваць. "Котвіч" і ўся яго група з 35 чалавек загінулі ў баі з НКВД на хутары Сурконты за 20 км ад Ліды — НКВД страціла забітымі 135 чалавек. Баі НКВД і Чырвонай Арміі супраць АК працягваліся да канца верасня, пасля чаго ацалелыя групы палякаў вярнуліся ў падполле — частка людзей адступіла ў пушчу, іншыя канспіраваліся ў мястэчках і вёсках.

Няўдача аперацыі "Вострая Брама" /па-за тактычнымі памылкамі, зменай тэрміну атакі і г.д./ тлумачыцца перадусім **недахопам сіл і сродкаў**, з-за чаго не ўдалося знішчыць аэрадром Парубанка, падарваць чыгунку і нейтралізаваць бронецягнікі, сходу прабіць галоўны пас абароны і перанесці баі на вуліцы, падняць агульнае паўстанне.

Хто ж не прыйшоў пад Вільню і чаму? Бо нават тыя, хто не паспеў да хвіліны "Х", біліся за Вільню ці на другі-трэці дзень, ці разам з савецкімі войскамі...

**Не было 5-й "Брыгады смерці" З.Шэндзеляжа—"Лупашкі" альбо 550 чалавек, не прыйшоў з 4 батальёнам 77 палка Ч.Заёнчкоўскі!-"Рагнэр" (800 чалавек), не прыйшоў на чале Стаўбцоўскага злучэння (900 чалавек) А.Пільх-"Гура" і г.д. Як бачым, не проста так бралі яны зброю ад немцаў — надышоў час плаціць. Найбольш характэрны прыклад А.Пільха-"Гуры", які вясной 1944 года два месяцы быў у рэйдзе і дайшоў аж да Мінска, удзельнічаючы ў карных апэрацыях немцаў супраць партызан, а потым адступаў на захад у нямецкіх калонах і разам з немцамі пераправіўся за Буг,**

*Ванкарэм* НІКІФАРОВІЧ (Чыкага)

# ЁН ТВОЙ СЫН, БЕЛАРУСЬ!

Да 60-годзьдзя Народнага паэта Беларусі — **Рыгора Барадуліна**

Кожная нацыя, кожны народ мае выразныя прыкметы сваёй непаўторнасьці, сваёй духоўнай адметнасьці. Найперш яна, вядома, — у мове як квінтэсэнцыі душы. Роднай мовай чалавеку наканавана зьвяртацца да іншых людзей, да каханай, да Бога. Скарбніцы мовы жывуць у стагодзьдзях, яны зьбіраюцца ў літаратурнай спадчыне таго ці іншага народу, яны нясуць народную мудрасьць. І шчасьлівы той народ, які мае сваіх слынных паэтаў, бо яны ўздымаюць моўныя багацьці да вышыні непасрэднага эмацыянальнага ўзьдзеяньня, у іх творах моўныя скарбы зіхацяць усімі адценьнямі прыгажосьці. Менавіта яны, паэты, чэрпаючы з народных крыніц, аддаюць народу аздобленыя яшчэ больш ярчэйшыя пэрліны. Творцы паэзіі — яны-ж і своеасаблівыя вартавыя духоўнасьці. І якбы цяжка ні жылося людзям, сапраўдная паэзія дае радасьць надзеі, бо толькі з ёй лягчэй дыхаецца.

У другой палове нашага стагодзьдзя такой для беларусаў стала паэзія Рыгора Барадуліна. Ад Янкі Купалы ён нібы падхапіў эстафету, прадаўжаючы Словам узьнімаць да незвычайнай вышыні, як філасофскай, так і эстэтычнай, такія сьветапаглядныя катэгорыі, як мова, народ, родная крывіцкая зямля, незалежнасьць. А ад Максіма Багдановіча Барадулін узяў ягонае разуменьне мейсца беларусаў сярод іншых народаў і беларускай культуры ў іншым неабсяжным сьвеце.

Згару на вейцы тваёй расінкай,  
Беларусь — мая мова і песьня, —

гэта ня проста паэтычная дэкларацыя, гэта, хоць і сьціплае, але сцьверджаньне лініі жыцьця, асноўны яго напрамак, якому Рыгор Барадулін верны вось ужо шэсьцьдзесят гадоў свайго жыцьця і сорак гадоў натхнёнай паэтычнай творчасьці.

Зьдзіўляе незвычайная шырыня тэматычны творчы дыяпазон паэзіі Рыгора Барадуліна. Ён піша пра родную хату ва Ушачах на Віцебшчыне і пра пах дыму, калі ўвосень у гародзе паляць бульбоўнік. Пра туманы над лясным возерам і чароўную пару сенакосу. Пра бацьку Івана, забітага ў час прарыву фашыстоўскай блакады, і матчыны вочы, якія вечна сьвецяць "сузор'ямі дабрыні". Пра менскія вулкі і палескія сьцяжыны. Пра абсягі Латвіі і готыку старой Вільні. Пра Уладзвастоцкі порт і пяскі Туркменіі. Пра вясну ў Фінляндыі і сосны на Кубе, пра фарбы балгарскай восені і праскія адвячоркаў. Пра сваю варажбу на Вялікай Кітайскай сьцяне і пра абед у Парыжы ў доме мастака Барыса Заборава. Пра маладзік над Брадвэем у Ню Ёрку і сьвятыя каровы на вуліцах Дэлі... Многа далёкіх і блізкіх краінаў і земляў давялося ўбачыць Рыгору Барадуліну, але ўсюды, дзе-б ён ні быў, ён глядзеў на ўсё навокал вачыма сына Беларусі, вяртаючыся ў вобразах і думках да роднага дому, да роднага парогу, да роднага неба, дзе заўсёды плывуць найпрыгажэйшыя ў сьвеце аблокі.

Трэба дома бываць часьцей,  
Трэба дома бываць ня госьцем,  
Каб душою ты стаў чысьцей  
І ня страціў сьвятое штосьці, —

гэтыя барадулінскія радкі запамінаюць сёньня адразу тыя, хто пачынае толькі чытаць пабеларуску, і яны, як самы мудры запавет, рэхам адгукаюцца потым у сэрцы на працягу ўсяго жыцьця.

Рыгор Барадулін — сапраўдны Майстар прыгожага пісьменства, паэт сусьветнага маштабу. Я асабіста бачу яго мейсца ў гісторыі сусьветнай паэзіі XX стагодзьдзя побач з Марыяй Цьвятаевай, Фэдэрыка Гарсія Лоркам, Барысам Пастарнакам. Але ў адрозьненьне ад славутых майстроў у яго паэзію надзвычай арганічна пранізьлівым матывам урываюцца матчыны песьні ды паданьні сівой даўніны... Як па найцікавейшым падручніку, наступныя паэты будуць вучыцца ў Рыгора Барадуліна ўсім клясычным і мадэрновым формам вершаскладаньня, рытмікі, рыфмоўкі, асацыяцый, мэтафарычнай вобразнасьці. Але пры ўсёй раскаванасьці, зьмястоўнай і структурнай, у кожным вершы Рыгора Барадуліна зноў і зноў заяўляе аб сабе ягоная непаўторная душа адданага сына сваёй зямлі і свайго народу, народу з такой цудоўнай і дасканалай мовай, якая, як і кожнаму беларусу, "блізкая і знаёмая, што па жылах цячэ і сонным Сажом і Нёманам", што "як жыта, спрадвечная"... Народ, мова, родная зямля, — такі непадзельны і неўміручы ў паэзіі Рыгора Барадуліна вобраз роднай Беларусі:

Долі інакшай ня трэба зямной,  
Сэрца пагоднее ад суцяшэньня:  
Родная мова ступала за мной  
Ад калыханкі  
Да галашэньня...

Невыпадкова Рыгора Барадуліна вабіць адначасова з уласнай творчасьцю і мастацкі пераклад. Ён добра разумее неабходнасьць увесьці ў нацыянальны беларускі культуралагічны працэс шэдэўры сусьветнай клясыкі і творы выдатных сучасьнікаў з іншых краін. Адначасова Рыгор Барадулін яшчэ і яшчэ раз дэманструе чытачу неабмежаваныя магчымасьці беларускай мовы, на якую могуць быць пасьпяхова перастрованы іншыя сугуччы з блізкіх і далёкіх моваў, рытмы, вобразы, думкі... Красамоўны толькі пералік паэтаў, творы якіх выйшлі асобнымі кніжкамі пабеларуску ў перакладзе Рыгора Барадуліна: Ян Райніс, Лорка, Вазьнясенскі, Габрыела Містраль, Ясенін, Пастарнак, Амар Хаям, Марк Шагал ды іншыя. Ён перакладаў з Адама Міцкевіча і Чэслава Мілаша, з многіх паэтаў Балтыі і Каўказа, Балгарыі і Лацінскай Амэрыкі, Украіны і Сярэдняй Азіі. З незвычайнай радасьцю і павагай зьбірае Рыгор Барадулін усё, што зьяўляецца ў паэтычных радках пра Беларусь у іншых краінах на ўсіх кантынэнтах планэты і перакладае гэтыя творы на родную мову. У выніку зьявілiся дзьве кнігі — "Беларусь — мае слова і песьня" і "Беларусь мяне збеларушвае. Словы любові."

У шчырым паэтычным слове — высокая грамадзянская пазіцыя Рыгора Барадуліна. Ён аніколі не служыў ніякім уладам, якія, на жаль, і дагэтуль навату сувярэннай Беларусі ня робяць тое, што хоча народ. Ён не імкнецца да высокіх пасадаў, якія і цяпер часам займаюць ягоныя аднагодкі і паплечнікі. Непахісна падтрымлівае Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", як адзіную сілу, якая сёньня пасапраўднаму рупіцца пра Беларусь і яе будучыню. Быў і ёсьць заўсёды абвострана чульлівы да ўсялякай хлусьні і няшчырасьці. Я сустрэўся з Рыгорам упершыню ў Менску ў 1954 годзе, мы пасябравалі, і з таго часу стараліся часта бачыцца... Многае перажылі і прайшлі разам, і заўсёды, нават падчас доўгіх ростаняў, я адчуваў моцную ачышчальную сілу яго душэўнага прыцягненьня, за якую буду ўдзячны сябру ўсё жыцьцё.

24 лютага Рыгору Барадуліну спаўняецца шэсьцьдзесят гадоў, і хочацца, горача віншуючы яго з юбілеем, пажадаць, каб ён застаўся і надалей такім-жа, як ён і ёсьць. Каб было здароўе, часам патрэбнае ўжо ў такія гады, каб былі такія-ж і творчы імпэт і плён. Бо ўсё, што ён піша, патрэбна сёньня многім, каму дарагая наша шматпакутная беларуская зямля і людзі, што жывуць на ёй, усім, хто сёньня зьвяртаецца да Ўсявышняга словамі барадулінскага паэтычнага "Маленьня":

Божа, пашлі Беларусі  
Ласку з Тваімі вачамі,  
Сэрцы суцеш у скрусе,  
Зьлітуйся над крывічамі.

Зьнікнуць, Сьвяты, ня дай нам  
Ад рукатворнага жаху,  
Верацьмем вечным тайнам  
Руху Твайго і шляху.

Божа, вярні дадому  
Блудныя душы з выгнаньня.  
Поперак духу зламу  
Воля Гасподняя стане.

Хай беларус беларуса  
Будзе любіць як брата.  
Сьветлая імем Ісуса  
Наша крывіцкая хата.

Божа, на ўсіх раздарожжах  
Нас ад напасьцяў варожых  
Твой зьбіражэ напамін.  
Амін.

Рыгор БАРАДУЛІН,  
прэзідэнт ПЭН-цэнтра Беларусі

# АСОБА ЎЗБУЙНЯЕ НАЦЫЮ

"Беларусь"

Па сваёй невытлумачальнасці нашая беларуская нацыя, бадай што, самая загадкавая ў гэтым свеце. Нашыя мацнейшыя ды большыя колькасна суседзі як з усходу, так і з захаду з адначасовым жаданнем захапіць спаконныя землі нашыя маюць на першамэце даказаць, што не існуе гэтакай нацыі, як беларуская, гэтакага народа, як беларускі.

Дужа перад панам Богам, няйначай, правінілася Беларусь. І войны ўсе на яе, й няснсцi ўсе на яе, й прадказаны Бібліяй чорны дзень. Вынішчэнне за вынішчэннем, генацыд за генацыдам — ленінска-сталінскі, чарнобыльскі, духоўны. І не хочацца прыгадваць, як у Чырвоным касцёле, дзе, дарэчы, й арганізацыйна аформіўся Беларускі ПЭН-цэнтр, падчас утварэння «Мартыралога Беларусі» й аргкамітэта БНФ "Адраджэнне" некаторыя прадстаўнікі творчае інтэлігенцыі надта нервова даказвалі, што нельга называць генацыдам камуністычна-савецкае вынішчэнне народаў, генацыд толькі гітлераўскі. Хоць, думаецца, гэтыя руплiўцы ведалі, што генацыд — самы выніковы метад усталявання таталітарызму.

Чым яшчэ, як не віной перад Госпадам, тлумачыць тое, што кожнаму пакаленню трэба даводзіць, што мы беларусы, што мы народ адметны, што мы нацыя. Нашым суседзям, генетычна блізкім нам — і літоўцам, і латышам,— дастаткова толькі нарадзіцца — й яны літоўцы, латышы. А нас, беларусаў, расцягваюць, раздзіраюць то на праваслаўных, то на католікаў, падкладваючы пад гэтае паняцце, што мы то расейцы, то палякі. І уніяцкая царква, якая б магла стаць нашай нацыянальнай царквой, знішчана.

Беларусь як бутэрброд — на свой чэрствы хлеб намазваюць дужэйшыя суседзі, стараюцца намазаць як мага тлусцей і асалоду расцягнуць.

Калі лірычна ўявіць, як хацелася б бачыць нас гэтым мацнейшым суседзям, дык гэта, відаць, вераб'ямі, якія сапраўды на птушыных правах падсуседнічаюць на буслянках, дзе гаспадары толькі буслы. Прыводжу вобраз бусла, бо ён святы ў беларусаў, каб падкрэсліць і павагу да дужэйшых суседзяў, да лепшай часткі іх. Бо ў змрочныя часіны нашыя апальнікі знаходзілі прыпірышча ў лепшых людзей Расіі й Польшчы.

Тады, калі ў чырвонай імперыі, як заўсёды, ударнымі тэмпамі вынішчалася ўсё нацыянальнае, на беларускіх пісьменнікаў легла адказнасць захаваць мову — аснову нацыі й магчымай будучай дзяржавы. Адразу след агаварыцца, што гэта хутчэй ад усяго была дазволеная адказнасць, вымушаны дазвол з боку манапольнай партыі камуністаў. Давалася амплітуда смеласці, якая рэгулявалася жорстка. Літаратура, як і ўся культура, мусіла быць нацыянальнай па форме й сацыялістычнай па змесце. Напрыклад, на пляшцы з «Белавежскай горкай» беларускі арнамент нясмела нагадваў нацыянальную прыналежнасць інтэрнацыянальнага напою. У дадзеным выпадку змест урэшце вырашаў усё. А вось у большыні твораў беларускіх савецкіх пісьменнікаў хіба што дазволеныя формы іменаў — Алесь, Міхась, Рыгор, Паўлюк — намякалі, што твор «made in BSSR».

Па сваёй ідэі пісьменнік перш за ўсё асоба, творца. І само сабой зразумела, што асоба павінна тварыць аднаасобна, быць, так бы мовіць, аднаасобнікам, самому адказваць за сябе, на сябе браць адказнасць за ўсіх. Ды ў краіне перамогшага, ці, можа, дакладней было б сказаць перамокшага ў крыві, сацыялізму ўсё мусіла быць калектыўнае. Фальклярысты ў цывільным нават прыдумалі ад імя народа фармулёўку: дзіва дзіўнае калектыўнае. Дык вось гэтае далёка не казачнае дзіва й стварала творчыя калгасы, яны саюзамі называліся (каб паўтараць яшчэ й яшчэ раз назву савецкай імперыі). Блыталася слова «творчасць» са словам «вытворчасць». Савецкі прыгон у вытворчых калгасах, савецкі прыгон у творчым калгасе, у саюзе пісьменнікаў. Старшыня й там, і там. Ды яшчэ ў саюзе пісьменнікаў сакратары й партсакратары, літаратурныя цэвуны й наглядатаі. Першы сакратар у ЦК, першы сакратар у саюзе пісьменнікаў. Да генеральнага так і не дараслі ні ў доме, адкуль ішлі дырэктывы й указанні, ні ў саюзе пісьменнікаў. І каб застацца асобай, творцам, трэба было быць Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Алесем Адамовічам. А для гэтага трэба было не прадаць душу д'яблу.

Цяпер фармальна няма імперыі, фармальна Беларусь незалежная Дзяржава, фармальна пісьменнік можа быць вольны. Ды вольны ён перш за ўсё ад сродкаў існавання, ад магчымасці друкавацца й выдавацца. Старыя структуры пад новымі шыльдамі тужаць зашмаргу на шыі беларускай мовы. Па-ранейшаму адчуваецца сумна вядомае: «Язык партии — русский язык». Нашая мова адразу не можа скінуць з сябе магільную пліту вагою ў два стагоддзі. Беларуская літаратура крычыць, але яе не чуюць уладатрымцы, бо яны гадаванцы таталітарнага рэжыму, яны так званыя інтэрнацыяналісты. І беларускія пісьменнікі ў сваёй дзяржаве як пасынкі ці як байструкі. І сапраўды, што ў той пасляўцы: разгуляўся, як сабака ў торбе. Нават выраз «папера ўсё стрывае» зынікаючыся. Не стала паперы, яна стала дарагой, недаступнай беларускай кнізе. Але яе хапае на нізкапробную прадукцыю, на чырвона-жоўтую прэсу, якая адмывае вядома чые грошы, не абмяжоўваючы сябе ў словах пагарды й нянавісці да беларускай сімволікі, да беларускай мовы, да ўсяго беларускага. Арыентацыя такой прэсы антыдзяржаўная, прасавецкая да замшэласці. Не адстае ў агульным наступе чырвона-карычневікаў на беларушчыну, на сувэрэнітэт дзяржавы радыё й тэлебачанне, чырванаѕоркавая мара ў якога — прадаць незалежнасць Беларусі так, каб бясплатна ды нястратна.

Прыйшло й прыходзіць у літаратуру новае пакаленне. Але ці стануць асобамі творцы беларускага духу, ці хопіць ім духу выстаяць перад спакусамі рынку, пад пільным позіркам спрадвечнай беларускай нэндзы. На іх надзея. Бо неяк заўважыў Васіль Быкаў: нашая літаратура патрацiла дзесяцігоддзі, каб даказаць, што ўмее пісьменна пісаць,

**АД РЭДАКЦЫІ.**

***Раім прачытаць гэты артыкул у кожнай сям'і, у кожным школьным класе, у кожнай студэнцкай групе, у кожным працоўным калектыве.***

# Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчыма без любові да сваёй мовы

— Народная газета

**Пётр КРАЎЧАНКА,**
**прэзідэнт фонду эканамічнага і палітычнага прагназіравання "Стратэгія"**

Я не выпадкова ў якасці загалоўка ўзяў гэтыя словы выдатнага рускага пісьменніка, бліскучага стыліста, закаханага ў прыгажосць сваёй роднай мовы Канстанціна Паустоўскага. Не выпадкова таму, што нам ёсць чаму павучыцца ў нашых суседзяў-сяброў, ёсць чаму падобраму ім пазайздросціць. Пераглядаю сёе-тое з таго, што некалі занатаваў, і не магу не прывесці ў гэтым артыкуле.

Выдатны рускі пісьменнік і гісторык М.М.Карамзін:

"Без мовы няма патрыёта!"

А.М.Талстой:

"Руская мова! Тысячагоддзямі ствараў народ гэтае гнуткае, невычарпальнае багацце, разумную, паэтычную і працоўную зброю свайго сацыяльнага жыцця, сваёй думкі, сваіх пачуццяў, сваіх надзей, свайго гневу, сваёй вялікай будучыні".

І.С.Тургенеў:

"Беражыце чысціню мовы, як святыню!"

А.І.Купрын:

"Мова — гэта гісторыя народа. Мова — гэта шлях цывілізацыі і культуры".

Колькі пафасу, гонару, любові да "святая святых", да чыстай крынічкі роднай мовы! Можна працягваць без канца, спасылаючыся на сотні самых аўтарытэтных імён. Але ад гэтага святлей у вачах і весялей у сэрцы не стане, калі азірнешся навокал. Тое, што ў другіх народаў успрымаецца як аксіёма, рэальнасць, дараваная Богам і лёсам, нам трэба кожны раз даказваць. Даказваць, што мы — народ, нацыя, дзяржава. Даказваць, што мы маем натуральнае права на дзяржаўнасць мовы. Даказваць, што мы нікога не дыскрымінуем і што дзяржаўная мова ёсць не што іншае, як modus vivendi, ***спосаб існавання, захавання і выжывання*** беларускага народа. Будзе жыць мова, значыць, будзе духоўна існаваць беларускі этнас, які ніколі не знікне фізічна з твару Зямлі, "не расплывецца імглой між чужых".

Бедная, гаротная Беларусь! Як многа (з пункту гледжання вечнасці) і як мала (калі параўнаць з іншымі народамі) ты хочаш. Са знясіленых, хваравітых грудзей, пасінелых вуснаў тваіх ледзь-ледзь чутна зрываецца роднае слова, але і яно разбіваецца, як крыга, аб сцяну абыякавасці і манкуртызму. Няўжо трэба тысячны раз даказваць, што цяпер, у канцы XX стагоддзя, у нас пакуль што яшчэ існуе апошні шанц захаваць нашу духоўную, моўную адметнасць, свой нацыянальны твар, сваю непадобнасць на іншых, што заўжды з'яўлялася агульнапланетарным здабыткам і велізарнай агульначалавечай каштоўнасцю.

Так, некалькі дзён назад мы адзначылі 5-ю гадавіну прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб мовах, які вытрымаў многія выпрабаванні і з'яўляецца нашай апошняй надзеяй. Дзяржаўнасць мовы азначае, што афіцыйныя органы бяруць пад абарону знясілены нацыянальны духоўны арганізм і дэкларуюць, што не дапусцяць знікнення беларускай мовы. Толькі ў такім кантэксце трэба чытаць і разумець гэты Закон. На працягу дзесяцігоддзяў у нас не юрыдычна, а фактычна існавала і сёння рэальна ўжываецца ***адна дзяржаўная мова — руская,*** якая манапалізавала многія галіны грамадскага і палітычнага жыцця і з'яўляецца абсалютна дамінуючай. Увядзенне Закона аб мовах, аднаўленне дзяржаўнага статуса беларускай мовы азначае не што іншае, як толькі спробу абсалютна неабходнага выраўноўвання, пэўнага парытэту ў выкарыстанні беларускай і рускай моў. Прычым я перакананы, што на тое, каб дасягнуць яго, нам спатрэбяцца дзесяцігоддзі. Рускай мове ***ніхто і нішто*** не пагражае ў бліжэйшыя 50 ці 100 гадоў. Ніхто на Беларусі не супраць, каб гэта цудоўная славянская мова жыла, зіхацела яркімі фарбамі і прыносіла карысць беларусам, палякам, рускім, украінцам, яўрэям у многіх сферах ведаў, у тым ліку і тэхнічных. Тым жа, хто збіраецца на дзяржаўную службу, прыйдзецца вывучыць і беларускую мову. Разумею, што многім проста няма ахвоты. А як жа — прыйдзецца тлуміць галаву.

Прыйдзецца, а што рабіць? Вывучыў у свой час беларускую мову Яго Свяцейшасць Ян Павел II. Тройчы мне давялося сустракацца з гэтай сусветна вядомай асобай, і я заўсёды буду з велізарнай цеплынёй успамінаць, з якой павагай на выдатнай беларускай мове ён гаварыў пра наш народ, пра нашу Бацькаўшчыну. Прычым апошні раз 1 снежня 1993 года ў Рыме ў час сустрэчы міністраў замежных спраў у межах НБСЕ. Успамінаю, як 52 міністры, запрошаныя ў Ватыкан, выслухалі яго прамову, а потым ён абышоў нешта падобнае на карэ, якое хуценька "склала" з міністраў пратакольная служба, падышоў да кожнага з нас, сказаў кожнаму некалькі ветлівых слоў. Да мяне звярнуўся на выдатнай беларускай мове, чым нямала ўразіў маіх калег-міністраў. У адказ, каб зрабіць яму прыемнае, я сказаў некалькі слоў на польскай мове. Раней, у 1992 годзе, у час афіцыйнага візіту дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у Ватыкан, перамовы вяліся, як правіла, на беларускай і польскай мовах.

З задавальненнем адзначаю, што ўсё больш і больш праваслаўных і каталіцкіх святароў пераходзяць на беларускую мову. Добры прыклад паказаў усім Яго Высокапраасвяшчэнства Уладыка Філарэт у сваім звароце да праваслаўных вернікаў у сталічным саборы на Каляды. Гэты зварот прагучаў на беларускай мове.

Ці іншы, не менш цікавы прыклад. Люты 1992 года. Візіт у Фінляндыю. Пасля афіцыйнай часткі ўзнікла жаданне наведаць вядомага на ўсю Скандынавію мастака Алеся Ахала-Вало (так ён сябе называе!), які ў 20-я гады жыў і працаваў у Віцебску і Мінску. Перад сустрэчай не магу стрымаць хвалявання! І вось ён, мастак, перада мною. Цвёрда, як малады, цісне руку, і як цвікамі, "распінае" мяне чысцюткай беларускай мовай без аніякага акцэнту! Значыць, так моцна, навекі запала ў яго сэрца наша Бацькаўшчына, што нават 60 год адсутнасці на Беларусі не "зруйнавалі" мову, якой авалодаў у маладосці. Прычым перад развітаннем без усякай падрыхтоўкі напісаў Зварот да беларускага народа і вельмі цёплае прывітанне сябру маладосці — Заіру Ісакавічу Азгуру.

А як жа інакш, як не асабістым подзвігам, можна назваць тое, што зрабіў вядомы еўрапейскі юрыст Гай Пікарда. Кінуць у вельмі сталым узросце — недзе за 50 — прэстыжную працу, якая давала добры прыбытак, каб заняцца... беларускай народнай музыкай, беларускім меласам. А дзеля гэтага прыйшлося самастойна авалодаць беларускай мовай, прычым дасканала. Сёння Гай Пікарда — адзін з самых адукаваных людзей у Еўропе, адзін з лепшых знаўцаў нашай гісторыі, культуры і музыкі.

Ёсць такія прыклады і ў Расіі, Польшчы, Аўстрыі, Швейцарыі, Англіі, Балгарыі, Чэхіі і іншых краінах. У той жа Чэхіі, напрыклад, дзякуючы намаганням прафесара В.Жыдліцкага створана нават філія ТБМ. У свеце ёсць сотні людзей, не беларусаў, не рускіх, не славян, якія цікавяцца і шчыра вывучаюць нашу самабытную і мілагучную мову. Дык у чым складанасць авалодання мовай для тых, хто нарадзіўся на гэтай зямельцы, хто прыехаў сюды і хто вырас пад небам нашай агульнай і такой традыцыйна талерантнай Бацькаўшчыны? Мы вельмі паважаем усіх вас, нашы дарагія суайчыннікі — прадстаўнікі іншых братніх народаў, але паважайце і вы нас, нашу мову і культуру, якая заўсёды адкрыта да ўзаемных уплываў.

Давайце вучыцца шанаваць сваю мову так, як гэта робяць, напрыклад, армяне. У свой час мне пасчасціла наведаць Эчміадзін, духоўную сталіцу армян. Каталікос Вазген II, які прымаў мяне ў канцы сустрэчы, нечакана запрасіў у адзін з пакояў і я... проста анямеў. У прыгожай нішы зіхацелі, пераліваліся сонечным святлом залатыя літары старажытнага армянскага алфавіта, створанага яшчэ ў V стагоддзі н.э. Адлітыя з чысцюткага золата лепшымі майстрамі-ювелірамі гэтай краіны, яны сведчаць пра неўміручасць нацыянальнага духу, пра святое стаўленне да духоўных вытокаў, якое ў рэшце *рэшт выклікала да жыцця* такую унікальную з'яву, як кнігасховішча Матэнадаран, аднаго з лепшых у свеце. На залатыя літары было нясцерпна балюча глядзець, і я прыплюшчыў вочы. Прыплюшчыў, каб убачыць перад сабой іншае золата, золата вершаванага радка нашай выдатнай паэткі Наталлі Арсенневай:

*...Наша мова — выкутая з золата —*
*Не іржавее, блішчыць, зіхаціць.*
*Гэта мова паэтаў і волатаў,*
*Скарб, які трымаў нас пры жыцці,*
*Каб не мова, даўно б мы растаялі,*
*Расплыліся б імглой між чужых, —*
*Збеглі ў вырай гусінаю стаяю...*
*Але з мовай — і мы будзем жыць.*
*Будзем жыць!*
*Днямі яснымі, новымі*
*Пойдзем, пойдзем с табой угару,*
*Наша жытная і васільковая,*
*Несмяротная Беларусь!*

Беларусы ў эміграцыі, нягледзячы на ўсе жыццёвыя трагедыі і складанасці, захавалі ў чысціні матчын дар — нашу мову. Не магу не ўспомніць і адзін выпадак, звязаны з I з'ездам беларусаў свету.

Уразіла, запала ў сэрца выступленне Раісы Жук-Грышкевіч. "А што ж мы хочам? Ці многа мы хочам? Толькі адно — захавайце нашу родную мову". Злавіў сябе на думцы, што не, не выступленне гэта, гэта плач. Так галосяць на вёсцы жанчыны, калі развітваюцца з кімсьці вельмі блізкім і дарагім...

Так што, як бачым, без Закона не абысціся. Давайце яшчэ раз уважліва прааналізуем яго, удумаемся ў тое, наколькі карэктна і няспешна ён фармулюе асноўныя артыкулы, мэты нацыянальнага Адраджэння. Большасць артыкулаў уводзіцца ці ўведзена ў дзеянне паступова: на працягу 3 гадоў — артыкулы пра мову дакументаў, мову ў сферы навукі, культуры, масавай інфармацыі, 3—5 — мова з'ездаў, канферэнцый, актаў органаў дзяржаўнай улады, 5 — мова справаводства і сферы абслугоўвання, 10 гадоў — мова судовага справаводства і г.д. Няцяжка ўбачыць, што з вышэйзгаданага, на вялікі жаль, многае не выконваецца. На мой погляд, справа не ў тым, каб падштурхнуць гэты працэс, больш актыўна выкарыстоўваць сілавыя рычагі. Лічу, што гэта б было велізарнай, недаравальнай памылкай. Галоўнае — сфарміраваць у большасці нацыі ўяўленне аб ***няўхільнасці, аб'ектыўнай непазбежнасці*** гэтага працэсу для падрастаючага пакалення, аб яго ***абсалютнай незваротнасці.*** Нас не цікавіць, на якой мове старэйшае пакаленне размаўляе ў *прыватным жыцці, нас цікавяць* моладзь, дзеці, іх моўна-культурная адукаванасць і падрыхтаванасць да жыцця. Лёс нацыянальнага Адраджэння вырашаецца і будзе вырашацца перш за ўсё ***навучальнымі ўстановамі*** ўсіх тыпаў, і толькі дзякуючы ім можна разлічваць на поспех. Зразумела, павінны быць створаны ўсе ўмовы для авалодання рускай, польскай, украінскай, яўрэйскай, татарскай, літоўскай, латышскай мовамі для тых, хто лічыць адну з іх роднай.

Аналізуючы Закон, мне, аднаму з яго аўтараў, успамінаецца многае. Як летам 1989 года бюро Мінскага гаркама было першай партыйнай інстанцыяй, якая звярнулася да Вярхоўнага Савета БССР з прапановай ***адрадзіць*** (а не ўвесці) дзяржаўны статус беларускай мовы. Успамінаецца, як на гэтым пасяджэнні ў прысутнасці вялікай групы нашай творчай і навуковай інтэлігенцыі рэктар тагачаснай Беларускай кансерваторыі Міхась Казінец і рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Васіль Шаранговіч першымі ўнеслі прапанову аб дзяржаўным статусе мовы, якую аднадушна падтрымалі члены бюро. Успамінаю, якой негатыўнай была рэакцыя тагачаснага ЦК КПБ. Не забыць сумесную стваральную працу ў складзе рабочай групы па распрацоўцы Закона, дзе галоўную ролю адыгралі Ніл Гілевіч, Барыс Сачанка, Міхась Яўневіч, Аляксандр Абрамовіч, Вячаслаў Рагойша, Міхась Дзямчук, Мікалай Бірыла, Пётр Садоўскі, Аляксандр Падлужны, Юрый Смірноў, Яўген Вайтовіч... Успамінаю, як няпроста ішло абмеркаванне на сесіі праекта Закона і тое хваляванне, з якім я, не дэпутат Вярхоўнага Савета, выступаў у яго абарону. Назаўсёды запомню і тую велізарную падтрымку, якую атрымала група распрацоўшчыкаў Закона. У яе адрас паступілі лісты, тэлеграмы, звароты, падпісаныя або ўхваленыя больш як 20 тысячамі чалавек. Успамінаю і пікеты супраць прыняцця Закона аб мовах у скверы Я.Купалы, які наша рамантычная моладзь лічыла недастаткова радыкальным.

Жыццё пацвердзіла — Закон жыве і працуе, і з часам яго прыняцця, з яго зместам і тэмпамі рэалізацыі мы, здаецца, не памыліліся. Магу сказаць, што эксперты Савета Еўропы і іншых міжнародных арганізацый, аналізуючы змест Закона, адзначылі яго талерантны, карэктны падыход да пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы. Дастаткова параўнаць яго з заканадаўствам па дадзенай праблеме, якое прынята ў Латвіі і Эстоніі, каб пераканацца ў гэтым.

Увогуле трэба адзначыць, што моўная сітуацыя на Беларусі настолькі складаная, што, па сутнасці, не мае аналагу ў Еўропе, не падпадае пад паняцце "тыповая сітуацыя". Нідзе ў Еўропе мова карэннага насельніцтва не знаходзілася б у такім занядбаным, ганебным стане, у такім крызісным стане. Гаворачы пра неабходнасць дзяржаўнага двухмоўя, даволі часта спасылаюцца на прыклад Швейцарыі. Гэта — некарэктнае параўнанне. Беларусь — унітарная дзяржава. Швейцарская Рэспубліка як канфедэрацыя гістарычна фарміравалася на працягу стагоддзяў з трох самастойных частак — нямецкай, французскай і італьянскай з удзелам старажытнага рэта-раманскага субстрату. Па сутнасці, прадстаўнікі трох вялікіх еўрапейскіх нацый з удзелам невялікага старажытнага мясцовага этнасу сфарміравалі новую дзяржаву, дзе сапраўды дэмакратычна суіснуюць чатыры розныя мовы. Але ні адна з іх не дамінуе (як у нас). Галоўнае адрозненне ў тым, што тры першыя вышэйзгаданыя мовы існуюць у якасці дзяржаўных у суседніх краінах, якія вельмі клапоцяцца пра іх лёс.

Вельмі складаная моўная сітуацыя (чымсьці падобная да нас) у Ірландыі, дзе англійская мова займае выключнае становішча. Гэта прымушае ўрад краіны ісці на прыняцце сістэмы захадаў спецыяльнай падтрымкі па захаванню ірландскай мовы. Дзяржава стварае ўмовы для яе папулярызацыі сярод моладзі, юрыдычныя механізмы яе абароны.

Дастаткова сур'ёзны падыход да дзяржаўнага рэгулявання моўнай сферы ў Іспаніі. Не выпадкова таму ў Канстытуцыі Іспаніі 1978 года ў арт. 3 гаворыцца: "Іспанская (кастыльская) мова з'яўляецца афіцыйнай дзяржаўнай мовай. Усе іспанцы павінны ведаць яе і маюць права ёю карыстацца".

Абсалютна такі ж падыход сфармуляваны і ў Канстытуцыі Індыі 1950 года і ў канстытуцыях цэлага шэрагу іншых дзяржаў. Калі мы рыхтавалі Закон аб мовах, то, зразумела, не маглі не ўлічваць, што тэрмін "дзяржаўная мова" шырока *выкарыстоўваўся на працягу* дзесяцігоддзяў у канстытуцыях і ў практыцы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Азербайджанскай, Армянскай і Грузінскай ССР. Гэта быў дастаткова станоўчы і павучальны вопыт, які дазволіў народам гэтых краін не проста захаваць мову, але нават і развіваць яе.

Ствараючы Закон, добра разумелі, што сёння мы — у апошняй мяжы. Пераступім яе, і знікнем як народ, як унікальная, непаўторная сукупнасць старажытнага славянскага этнасу. Нідзе больш у свеце няма магчымасці самазахавання беларускай адметнасці, нацыянальнай мовы. Прыняцце спачатку Закона аб мовах, а потым наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай на канстытуцыйным узроўні (арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь) — меры, накіраваныя на недапушчэнне знікнення, смерці беларускай мовы. Па вялікім рахунку, выкарыстоўванне беларускай мовы ў органах дзяржаўнай улады і кіравання, адпаведнымі службовымі асобамі пры рэалізацыі імі сваіх службовых функцый можа сведчыць аб іх ***лаяльнасці*** да беларускай дзяржавы. Асаблівая адказнасць ускладаецца на першых асоб дзяржавы, прыклад якіх для сваіх падначаленых мае выключнае значэнне. Нездарма гаворыцца: "Будзе размаўляць кіраўніцтва, будзе размаўляць і народ". Тое, што А.Г.Лукашэнка цураецца беларускай мовы, не можа быць прызнана нармальнай з'явай. Уявіце сабе, што прэм'ер-міністр Іспаніі размаўляе са сваім народам на партугальскай мове, а Франсуа Мітэран — на італьянскай. Перакананы, што такая скандальная сітуацыя вырашылася б у любой краіне вельмі хутка на карысць народа — носьбіта мовы. Не выпадкова ў Францыі, краіне з выдатнейшай па ўзроўню распрацаванасці мовай, існуе Нацыянальная камісія па яе захаванню і абароне. Французы ўжо не першы год б'юць трывогу ў сувязі з засмечваннем мовы запазычаннямі з іншых моў, і асабліва з англійскай. Здавалася б, ёсць вялікая мова! Магутная, вядомая ва ўсім свеце літаратура і культура. І тым не менш Нацыянальная асамблея і сенат Францыі, улічваючы рашэнне Канстытуцыйнага савета N 94-345 ад 29 ліпеня 1994 года, прынялі Закон аб абароне французскай мовы, які зацвердзіў прэзідэнт Францыі. Хачу звярнуць увагу паважанага чытача на наступныя артыкулы. Давайце ўдумаемся ў іх. Артыкул 1: "Мова рэспублікі згодна з Канстытуцыяй — французская мова — асноватворны элемент асобы і багацце Францыі. Яна з'яўляецца мовай адукацыі, працы, гандлю, камунальнага абслугоўвання". Артыкул 3: "Любы надпіс, расклееная ці зробленая публічным чынам аб'ява ў месцах грамадскага карыстання ці грамадскім транспарце... павінны быць сфармуляваны на французскай мове". Артыкул 5: "... Любыя пагадненні павінны быць складзены на французскай мове. Яны не могуць змяшчаць у сабе ні выразаў ні тэрмінаў замежнага паходжання, калі існуе французскі выраз ці тэрмін з аналагічным зместам". Артыкул 20-1: "Выкарыстанне французскай мовы абавязковае

ў тэлевізійных перадачах, рэкламе, незалежна ад спосабу іх перадачы і распаўсюджвання, за выключэннем твораў кінематаграфіі і аўдыёвізуальных твораў, перадаваемых у арыгінальнай версіі".

А ў нас? Я не паверыў вачам, калі прачытаў тое, што было сказана 1 снежня мінулага года А.Г.Лукашэнкам у Гомелі на сесіі гарсавета: "Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуе толькі дзве вялікія мовы — гэта руская і англійская". Якая абраза тых, хто жыве сёння! Якая абраза ўсяго нашага народа — носьбіта мовы, які на працягу стагоддзяў сеяў, будаваў, бараніў Бацькаўшчыну, ствараў выдатныя ўзоры мастацкіх твораў, навуковыя вынаходствы, гадаваў дзяцей і іншай мовы не ведаў, акрамя беларускай. А як быць з нашай сённяшняй вёскай, якая, нягледзячы на ўсё, захоўвае беларускасць? Што, і яна нічога не ўмее, у тым ліку працаваць? Нямецкі пісьменнік Г.Лаўбэ, сябра Г.Гейне, аднойчы трапна сказаў: "Нападаць на мову народа — гэта значыць нападаць на яго сэрца".

У гэтай сувязі хачу напомніць А.Г.Лукашэнку, што ён далёка не першы, хто пачынаў барацьбу з беларускай мовай. Гэта мы, як гаворыцца, праходзілі ўжо ў нашай шматпакутнай гісторыі. Паслухайце, якія знаёмыя матывы. "Іх мова з'яўляецца настолькі цяжкай і нераспрацаванай, што яна не можа быць мовай школы і органаў кіравання". Хто б вы думалі сфармуляваў такі бліскучы перл? Юзэф Пілсудскі, 18 жніўня 1926 года, у афіцыйным выступленні на пасяджэнні польскага ўрада. Праўда, зусім іншае гаварыў Ю.Пілсудскі ў 1920 годзе ў Мінску, выступаючы перад беларускай інтэлігенцыяй. Нарадзіўшыся на Віленшчыне, добра ведаючы традыцыі і звычкі Беларусі і Літвы, ён абяцаў у той прамове, якой пэўная частка нацыянальных дзеячаў паверыла, і нацыянальна-культурную аўтаномію, і адраджэнне мовы, і многае іншае. Так было ў нашай гісторыі: тыя, хто ў пераломныя часы спрабаваў знайсці падтрымку ў нашага народа, псіхалагічна абапіраліся на яго, чамусьці адразу ўспаміналі, што ёсць, жыве беларуская мова. ... сцвярджаў Алесь Чарвякоў у адным са сваіх выступленняў, у 1812 годзе з Напалеон I, і рускі ўрад не лічылі чамусьці для сябе ганебным звяртацца да нашага народа ў сваіх заявах і афіцыйных закліках на беларускай мове.

Але былі, ёсць і будуць іншыя, не менш вядомыя людзі, якія зусім інакш ставіліся і ставяцца да нашай мовы. Вялікі польскі і славянскі паэт, наш знакаміты зямляк Адам Міцкевіч, якому ў свеце пастаўлена больш за 40 помнікаў, не выпадкова быў у захапленні ад беларускай мовы, мовы свайго дзяцінства, і лічыў яе "самай гарманічнай з усіх славянскіх моў, найменш змененай". Уважліва паслухаем паэта: "На беларускай мове гаворыць каля 10 мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю ў сваёй дыпламатычнай перапісцы". Ёсць звесткі, што ў 40-я гады 19-га стагоддзя ў Францыі, выкладаючы ў Калеж дэ Франс курс славянскага мовазнаўства, ён чытаў лекцыі і аб беларускай мове. Некаторыя літаратуразнаўцы лічаць, што асобныя вершы, у тым ліку і санеты, былі напісаны А.Міцкевічам на беларускай мове. На вялікі жаль, яны не захаваліся.

А як сёння не ўспомніць нашых сяброў — рускіх прафесараў у Мінску, Віцебску, Горках, якія ў 20-я гады за лічаныя месяцы, закладваючы падмурак многіх нацыянальных навуковых школ, пераходзілі на беларускую мову выкладання самых складаных тэхнічных і сельскагаспадарчых дысцыплін. Добра знаёмы і з патрыятычным падыходам дзесяткаў дактароў і кандыдатаў навук з Тэхналагічнага універсітэта, рускіх па нацыянальнасці, якія абсалютна свядома зрабілі выбар на карысць беларускай мовы. Давайце ўславім сёння гэтых і многіх іншых людзей, сапраўдных інтэлігентаў. Переканаваны, што галоўная рыса інтэлігентнасці — гэта разуменне болю іншага чалавека, іншага народа, спачуванне і падтрымка яго.

Закончыць свой артыкул хачу на мажорнай, усхваляванай ноце. Зусім нядаўна, у снежні мінулага года, на чыгуначным вакзале горада Маладзечна быў проста расчулены адным выпадкам. Побач са мной сядзелі двое: маці сярэдніх гадоў і маленькая дзяўчынка — Тамарка (так яна сябе называла). На маіх вачах адбыўся цуд: дзевяцігадовая дзяўчынка вучыла маці, ці хутчэй прымушала яе, успамінаць словы, прымушала ўспамінаць родную мову. Яна гуляла ў словы, называла іх па-беларуску, задавала маці пытанне і хуценька сама адказвала. Прычым рабіла гэта нараспеў, прыгожа, вельмі-вельмі натуральна, з велізарным задавальненнем. У дзяўчынкі блішчэлі вочкі, яна сама заліvалася серабрыстым смехам (так могуць смяяцца толькі дзеці) і, крышку пакалыхваючыся, гаварыла нараспеў: вавёрка, панчошкі, стоць. "Мама! Як гэта будзе на рускай мове?" І, не чакаючы адказу, перакладала іх на рускую мову. Маці крышку сердавала, але, здаецца, не вельмі. Я сядзеў побач, затаіўшы дыханне. Праз хвілін 15—20 гэтага ўрока яны хуценька падхапіліся і пайшлі на цягнік, які, як я зразумеў, адпраўляўся на Ліду.

Праводзячы іх вачыма, я сказаў пра сябе: "Добрага шляху, дарагая Тамарка! Добрай дарогі, нашы дзеткі! Не, не загіне наша мова, калі ласкава, пяшчотна Маці-Радзіма, Маці-Беларусь узгадуе іх".

## БЛОК ТРЭЦІ, ДЭМАКРАТЫЧНЫ

16 студзеня 1995 года кіраўнікі пяці беларускіх партый правага і правацэнтрысцкага напрамку змацавалі сваімі подпісамі пагадненне аб стварэнні перадвыбарнага блока дэмакратычных сіл.

Паводле звестак агенцтва РІД, арганізатарамі блока выступілі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада (БСДГ), Беларуская сялянская партыя (БСП), Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя (БХДП), Партыя Беларускага народнага фронту (БНФ) і Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДРБ). А да 5 лютага да блока могуць далучыцца і іншыя партыі, якія падзяляюць прынцыпы яго дзейнасці.

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

У БЕЛАРУСКУЮ сацыял-дэмакратычную грамаду прыняты новыя сябры. Імі сталі мастакі Уладзімір Басалыга і Васіль Шаранговіч -- рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, а таксама Пётр Краўчанка, былы міністр замежных спраў Беларусі.

ПРАКУРАТУРА Беларусі спыніла крымінальную справу, узбуджаную адміністрацыяй Прэзідэнта супраць былога міністра абароны Паўла Казлоўскага. Няма доказаў сцвярджаць, нібыта былі выкарыстаны дзяржаўныя сродкі пры правядзенні вяселля сына былога міністра Андрэя Казлоўскага і дачкі спікера парламента Алены Грыб.

БОЛЬШ 1 мільёна долараў каштавала Беларусі навучанне 47 курсантаў і 33 афіцэраў беларускіх Узброеных Сіл у ваенных акадэміях і вучылішчах Расіі. Сёлета затраты гэтыя ўзрастуць, прынамсі, у 3 разы. Патрэбна свая акадэмія.

# Дзяржаўныя сімвалы наканаваны беларусам гісторыяй

— «Народная газета»

**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ГРЫБУ Мечыславу Іванавічу, старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны ГІЛЕВІЧУ Нілу Сымонавічу, Галоўнаму рэдактару "Народнай газеты" СЯРЭДЗІЧУ Іосіфу Паўлавічу**

**Мы, члены Вучонага савета Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі з занепакоенасцю адзначаем з'яўленне ў некаторых айчынных і замежных сродках масавай інфармацыі матэрыялаў з неабгрунтаванымі нападкамі на дзяржаўную сімволіку Рэспублікі Беларусь і з патрабаваннямі яе перагляду. У сувязі з гэтым лічым неабходным давесці да Вашага ведама і да ведама шырокай грамадскасці змест пастановы Вучонага савета нашага інстытута, прынятай яшчэ ў 1991 годзе. Адзначаем пры гэтым, што вучоныя інстытута і сёння не маюць падстаў мяняць або ўдакладняць сваю думку.**

## Пастанова Вучонага савета Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі ад 12 верасня 1991 года

Зыходзячы з таго, што герб "Пагоня" мае шматвяковую гісторыю і адлюстроўвае сумесную гераічную барацьбу беларускага і літоўскага народаў за сваю незалежнасць;

— што ён у канцы XIV стагоддзя стаў сімвалам іх дзяржаўнага саюза ў форме Вялікага княства Літоўскага;

— што ў слаўнай бітве пад Грунвальдам у 1410 г., якая паклала канец нямецкай агрэсіі на ўсход, беларускія палкі выступалі з "Пагоняй" на баявых сцягах;

— што ў XV—XVI стагоддзях выява "Пагоні" была на харугвах Берасцейскага, Віцебскага, Полацкага, Мсціслаўскага, Менскага, Віленскага, Навагародскага ваяводстваў і шэрагу паветаў Беларусі;

— што ў гербе "Пагоня" адлюстраваны нацыянальныя колеры беларускага народа — белы і чырвоны;

— што герб "Пагоня" і геральдычна звязаны з ім бел-чырвона-белы сцяг у 1918 годзе зацверджаны Сакратарыятам Беларускай Народнай Рэспублікі ў якасці дзяржаўных сімвалаў Беларусі;

— што герб і сцяг БССР, зацверджаныя ў 1951 г., не адлюстроўваюць шматвяковую гераічную гісторыю і нацыянальныя колеры беларускага народа і сталі сімвалам адміністрацыйнага рэжыму;

— што пад сімваламі "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам развіваўся і развіваецца беларускі адраджэнскі рух,

**Вучоны савет Інстытута гісторыі АНБ прапануе:**

1. Зацвердзіць у якасці дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь герб з выявай "Пагоні" і бел-чырвона-белы сцяг.

2. Лічыць мэтазгодным надаць суверэннай Беларускай дзяржаве назву: "Рэспубліка Беларусь".

3. Вырашэнне пытання аб Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь даручыць кампетэнтнай камісіі.

4. Сталіцы Рэспублікі Беларусь вярнуць старажытную гістарычную назву — горад Менск.

**Члены Вучонага савета Інстытута гісторыі АНБ:**
**Касцюк М.П., член-карэспандэнт АНБ, дырэктар інстытута; Біч М.В., доктар гістарычных навук, намеснік дырэктара па навуковай рабоце; Кошалеў М.К., кандыдат гістарычных навук, вучоны сакратар інстытута; Літвін А.М., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Лойка П.А., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Шадыра В.І., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Лыч Л.М., доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік; Філякоў У.Г., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік; Навіцкі У.І., доктар гістарычных навук, загадчык аддзела; Ксяндзоў У.П., доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік; Галенчанка Г.Я., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Вяргей В.С., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік; Штыхаў Г.В., доктар гістарычных навук, загадчык аддзела; Чарняўскі М.М., кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела; Гурын М.Ф., доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік; Языковіч Л.У., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік; Кузьменка У.І., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік; Шаблюк В.У., кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік; Мядзведзеў А.М., кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік.**

## Białoruś

**O szkołę polską w Grodnie.** 12 stycznia 1995 r. w Grodnie 300 polskich rodziców pikietowało siedzibę władz obwodowych. Pikietę zorganizował Zarząd Główny Związku Polaków na Białorusi w związku z odmową rządu białoruskiego w sprawie finansowania budowy szkoły polskiej w tym mieście. Pod hasłami:

"Chcemy szkoły polskiej w Grodnie", "Dla polskich dzieci - polska szkoła", "Rząd powinien się wywiązać ze swoich obietnic", manifestujący domagali się realizacji wielokrotnie składanych obietnic, że ze środków państwowych powstanie w Grodnie polska szkoła.

Organizatorzy planowali manifestację w stołecznym Mińsku. Jednakże nie mieli pieniędzy na opłacenie transportu uczestników pikiety z Grodna do Mińska. Rząd polski wywiązał się z umów bilateralnych, finansując budowę szkoły białoruskiej w Hajnówce.

☆ ☆ ☆ ☆ ☆ ☆

Ingres w Drohiczynie. W niedzielę, 8 stycznia 1995 roku odbył się uroczysty ingres kardynalski ks. arcybiskupa Kzimierza Świątka, metropolity mińsko-mohylewskiego i administratora apostolskiego diecezji pińskiej, do Katedry Trójcy Przenajświętszej w Drohiczynie.

Ks. kard. K. Świątek jest pierwszym polskim kapłanem w krajach b. ZSRR, podniesionym do tak wysokiej godności w Kościele katolickim.

Kardynał Świątek pełnił posługę kapłańską w diecezji pińskiej całe swoje życie. Aresztowany przez NKWD przeszedł przez cele śmierci, a następnie zesłano go do Workuty. Po powrocie na Białoruś kontynuował pracę duszpasterską oraz dążył do odrodzenie narodowego Polaków na Białorusi. Patronował powstaniu pierwszej polskiej organizacji na tamtym terenie, czyli dzisiejszemu Zwązkowi Polaków na Białorusi.

Вельмі павучальна прачытаць, што піша нейкая Агнешка Панэцка з "Вспульноты Польскей" (варшаўская арганізацыя на падабенства нашае менскае ЗБС "Бацькаўшчына").

Сапраўды трэба быць на добрым падпітку, каб казаць, што ў Гайнаўцы польскі ўрад пабудаваў беларускую школу. У гэтай школе столькі беларускага, колькі сьлёзаў у ката спадарыні Агнешкі. Цікава ці плацяць беларусы ў Польшчы падаткі ў казну польскага ўраду?!

Ну, а іншыя адкрыцьці ў спд. Агнешкі — даволі цікавыя...

# ЗБЕРАГЧЫ НАШ СКАРБ

Велічныя руіны Наваградскага замка — алегарычны сімвал нашай гісторыі. Яны нясуць у сабе інфармацыю шматлікіх падзей і пакаленняў, назапашаных на працягу амаль дзесяці стагоддзяў. Абрысы замка ўжываюцца і ўспрымаюцца як сімвал усёй Беларусі, таму што гісторыя наваградскага замка непадзельна звязана з важнейшымі падзеямі нашай агульнай гісторыі.

Як сцвярджае першы Сафійскі летапіс пад 1044 г., "ходи Ярослав на Литву, а на весну заложи Новогород", як аплот валодання Кіева гэтымі землямі. Ф.Гурэвіч, якая кіравала археалагічнымі даследаваннямі ў Наваградку ў 1956 — 1974 гг., удакладняе момант яго ўзнікнення, як мяжу X — XI стст., што супадае з паходам Уладзіміра Святаслававіча Кіеўскага на яцвягаў. Так ці інакш, але пачалі будаўніцтва наваградскага замка кіеўскія князі, а разбудоўваўся і ўмацоўваўся ён дзякуючы вялікім князям літоўскім пачынаючы ад князя Міндоўга, які летам 1252 "коронован бысть на королевство Литовское в Новогородку". Наваградак у той час дасягнуў значнага эканамічнага і культурнага развіцця і быў рэзідэнцыяй князя Міндоўга і яго пераемніка князя Войшалка.

Ужо ў сярэдзіне XI ст. наваградскі дзядзінец быў абнесены земляным валам з драўлянымі канструкцыямі. У канцы XII ст. земляны вал пераносіцца на край пляцоўкі, што сведчыць аб росце і развіцці замка. Паўночную частку дзядзінца займалі клеці і свірны, побач з гаспадарчымі пабудовамі, падобна, працавалі рамеснікі-ювеліры. У паўднёвай частцы знаходзіліся пабудовы залежных ад князя гараджан, чэлядзі. Жыллё князя магло знаходзіцца каля вады, дзе пазней, у XIV ст., стаяла грамадзянская мураваная пабудова (палаты феадала). Непадалёк ад цэнтра размяшчалася царква.

У XII — XIII стст. наваградскі дзядзінец быў моцнай крэпасцю. Вышыня вала раўнялася 6 метрам, шырыня была больш за 21 метр! На замку была пабудавана вежа, рэшткі якой сёння схаваны ў зямлі на 7,5 м. Яна была адзіным мураваным збудаваннем тагачаснага замка. Як мяркуе М.Ткачоў, будаўнікамі маглі быць як валынскія ці нямецкія, так і мясцовыя майстры. З летапісных крыніц вядома, што ў 1274 г. аб'яднанаму валынскаму і татарскаму войску не ўдалося захапіць замак, у абароне якога вялікая роля належала мураванай вежы. Не ўдалося захапіць яго і крыжацкім атрадам у 1314, 1391 і 1394 гг. пад кіраўніцтвам Вялікага магістра Генрыка фон Плоцке, Конрада Валенрода і Ульрыха фон Юнгінгена. Але замак быў моцна пашкоджаны.

У XIV ст. пачынаецца новы этап у гісторыі Наваградка, абумоўлены перш за ўсё стварэннем на старажытным дзядзінцы магутнага мураванага замка.

Яшчэ пасля сумеснага галіцка-валынскага і татарскага паходу на Наваградак у 1274 г. менавіта на дзядзінец пераносіцца асноўная жыццядзейнасць горада, і тут вядзецца інтэнсіўнае будаўніцтва і ўзводзяцца царква, палаты, уласна замак, якія займаюць асаблівае месца ў гісторыі архітэктуры Беларусі.

Найбольш ранні манументальным помнікам наваградскага дзядзінца з'яўляецца царква. Сістэма кладкі — вендская і гатычная, а таксама фармат цэглы, як адзначае М.Малеўская, набліжаюць яе да замкавай вежы Шчытоўкі і замкаў ў Лідзе, Крэве, Медніках. Яна з'яўляецца адзіным помнікам культавай архітэктуры першай паловы XIV ст. на тэрыторыі Беларусі. Адзінай на Беларусі манументальнай грамадзянскай пабудовай гэтага перыяду з'яўляюцца "палаты феадала", адкрытыя М.Малеўскай непадалёк ад царквы. Гэта была двухпавярховая пабудова свецкага характару, прызначаная для ўрачыстых княжацкіх прыёмаў, якая не мае прамых аналагаў ні ў Вялікім княстве Літоўскім, ні ў Заходняй Еўропе. Па сваім прызначэнні яна нагадвае палацы і церамы на дзядзінцах старажытных беларускіх гарадоў, па канструкцыі — падобная да гарадскіх дамоў Рыгі канца XIII — пачатку XIV ст. (Аднак рыжскія дамы не з'яўляліся княжацкімі пабудовамі.)

У канцы XIV ст. князь Вітаўт пачынае адбудоўваць наваградскі замак. На фундаменце першай мураванай вежы ў сярэдзіне паўночнай сцяны ўзводзіцца новая, вядомая пад назвай Шчытоўкі, альбо Цэнтральнай, з праезджай брамай. Вежа мела пяць паверхаў і дасягала 25 м у вышыню.

Справа паўстала трохпавярховая Касцельная вежа вышынёй 12 метраў. Трэцяя замкавая вежа — Малая брама была таксама трохпавярховай і стаяла на паўднёвым баку дзядзінца. Ад Малой брамы на захад ішло самае моцнае прасла сцяны даўжынёй 20 м, якое злучала яе з Пасадскай вежай.

Другі этап будаўніцтва звязаны з пабудовай ля падэшвы Замкавай гары, дзе білі моцныя крыніцы, Калодзежнай вежы. Такім чынам, у пачатку XV ст. наваградскі замак меў пяць мураваных вежаў. Гэтым ён, безумоўна, абавязаны вялікаму князю Вітаўту, які часта і падоўгу жыў у Наваградку.

У 1415 г. па ініцыятыве Вітаўта ў Наваградку адбыўся сабор праваслаўных епіскапаў з мэтай стварыць незалежную ад Масквы праваслаўную мітраполію Вялікага княства Літоўскага, на якім Грыгорый Цамблак быў абраны мітрапалітам.

На замку ў Вітаўта гасцяў кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла, які ў 1422 г. браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай у Наваградскім фарным касцёле.

Тут 80-гадовы, але яшчэ поўны рыцарскага духу Вітаўт, вяртаючыся з выправы на Пскоў і Ноўгарад, раздаваў дары сваім воінам, а ў 1428 г. запісаў Наваградак у пажыццёвае ўладанне жонцы Ульяне.

У 1444 г. вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык залічыў Наваградак да галоўных гарадоў Вялікага княства Літоўскага і даў яму шэраг муніцыпальных свабод. Тут адбываліся сеймікі, засядалі замкавы і земскі суды, а ў 1448 г. праходзіў сейм Вялікага княства Літоўскага.

У пачатку XVI ст. больш частымі сталі напады крымскіх татар. У 1503, 1505 і 1506 гг. наваградскі замак вытрымаў аблогі татарскіх войскаў на чале з султанам Біці-Гірэем.

На гэты перыяд прыпадае трэці этап умацавання наваградскага замка. У паўночна-заходнім куце паўстае самая высокая вежа — Дазорца (вышыня 30 м). У пачатку XVI ст. была пабудавана яшчэ адна вежа — Меская. Яна знаходзілася ля паўднёва-ўсходняга схілу і абараняла з боку "места" подступы да ўваходу ў замак. Так утварылася дадатковае ніжняе ўмацаванне — "форбург", якое значна павышала фартыфікацыйныя якасці наваградскага замка. У XVI ст. ён меў ужо сем вежаў і быў адным з наймагутнейшых на Беларусі.

Унікальны Наваградак і па археалагічных знаходках. Па колькасці амфар ён займае адно з першых месц сярод беларускіх гарадоў XII — XIII стст. Тут знойдзена вялікая колькасць фрагментаў візантыйскага, бліжнеўсходняга, старажытнарускага шклянога посуду з люстраным роспісам, а таксама роспісам золатам і белай эмаллю. Сярод знаходак — шкляны, упрыгожаны разьбой келіх, вядомы пад назвай кубка Ядвігі, унікальны літы абразок з чырвона-карычневага шкла, які мае два вядомыя ў свеце аналагі. Адзін знойдзены ў Александрыі і захоўваецца ў Оксфардскім музеі. Другі, месца знаходкі якога невядома, экспануецца ў Музеі хрысціянскіх старажытнасцей Ватыкана. Як заўважае Ф.Гурэвіч, у археалогіі пакуль таксама невядомы паралелі багатаму кварталу вакольнага горада Наваградка, унікальнай асаблівасцю якога з'яўляецца зашклёнасць вокнаў і фрэскавы роспіс сцен у жылых пабудовах XII ст.

Але войны і час, ды яшчэ абыякавасць людзей да лёсу нацыянальных каштоўнасцей, адсутнасць імкнення захаваць іх для сябе і нашчадкаў прывялі да таго, што зараз замак знаходзіцца пад пагрозай знішчэння. На пачатку нашага стагоддзя, 14 лістапада 1906 г., абвалілася заходняя сцяна Касцельнай вежы. У 1925 — 1928 гг. была закансервавана Шчытоўка, паўднёвая сцяна якой абвалілася ў час першай сусветнай вайны, а таксама разабрана і перамуравана сцяна Касцельнай вежы.

Зараз у чарговы раз пад пагрозай абвалу знаходзіцца адзіная надземная частка сцяны Касцельнай вежы. Ці перазімуе яна яшчэ адну зіму? А калі не? Як будуць адчуваць сябе тыя, хто мог і павінен быў яе ўратаваць?

Наваградскі замак чакае і спадзяецца...

**Тамара ВЯРШЫЦКАЯ,**
**дырэктар Наваградскага краязнаўчага музея**

*У артыкуле выкарыстаны матэрыялы Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута*



## Зубы не псуюцца

-- Што гэта, дзеткі, усе пра нейкі секс гамоняць. Тарты, кексы ведаю і люблю, хоць, кажуць, што ад салодкага зубы псуюцца. А вось секс...

-- Паспрабуй, паспрабуй, бабуся, -- усміхаецца суседка. -- Ад сексу зубы не псуюцца.

## Бычная справа

У Яўхіма бяда: карова -- ялаўка.

-- Ну, што ты, Волечка, скажаш. Здаецца, такі гаспадарлівы мужык -- і на табе, -- здзіўляецца Тамара.

-- Вядома, мужык ён добры, але быка ўсё ж не заменіць.

# НАМ ПІШУЦЬ... НАС ПЫТАЮЦЬ...

Шаноўны спадар Мікола Прускі!

Разам са сьвяточнымі віншаваньнямі прашу прыняць шчырую падзяку за духоўную і матэрыяльную падтрымку маёй сьціплай творчай і патрыятычнай дзейнасьці на карысьць нашай любай Бацькаўшчыны — няшчаснай Беларусі. Вельмі хачу спадзявацца, што нашая агульная справа калісь сконча бязумоўнай перамогай над сіламі зла, калі паспраўядлівасьці будзе ацэнены высокародны ўклад у яе беларускай дыяспары і Ваш асабісты...

Са шчырасьцю

Васіль Быкаў

*Шчыра дзякую за прыгожыя словы скіраваныя да мяне і ўсіх нашых добразычліўцаў.*

Паважаны сп. Прускі!

Шчыра Вам дзякуем за газэту "Б.Д." Газэта зьмяшчае цікавыя артыкулы. Рабеце карысную справу. Дай Вам, Мілы Божа, здароўя і сілы. Залучаю ахвяру...

Вы пытаеце адрасоў. Бачыце, даць нечы адрас невыпадае, бо ня ведама ці тая асоба прышле ахвяру. Некаторыя кажуць: "мы ня маем часу..." На ўсякі выпадак даю Вам адзін адрас...

Яшчэ раз шчыра дзякую за газэту.

З глыбокай пашанай,

Ч. і Ю. Н.

*Дзякуем за ліст. Мы ведаем, што нашыя людзі ня маюць часу на свае скромныя патрыятычныя патрэбы, але затое маюць дастаткова часу на ўсё іншае і нярэдка чужое. А адрасы ўсё-ж прысылайце!*

30 студзеня 1995 г.

Глыбокапаважаны спадар Прускі!

У ліпені мінулага году расейская газэта "Новое Русское Слово" надрукавала артыкул свайго супрацоўніка Аляксандра Лазарава, які, ня ведаючы гісторыі або наўмысна перакручваючы яе, варожа гаварыў пра Беларусь і пра выбары Лукашэнкі беларускім прэзыдэнтам.

Прачытаўшы той артыкул, я адразу вырашыў зарэагаваць і напісаць ліст у рэдакцыю... Гэты мой ліст яны не надрукавалі — нічога дзіўнага!

Прайшло досыць шмат часу ад надрукаваньня лазараўскага артыкулу, але надзённасьць тэмы, пра якую я пісаў у сваім лісьце не зьнікае, а наадварот, яна ўсё ўзмацняецца, асабліва калі меркаваць па тых хвалюючых вестках, якія прыходзяць зараз з Беларусі. Дык пасылаю Вам той ліст. Пры магчымасьці, калі ласка, надрукуйце яго ў "Беларускім Дайджэсьце". Можа прачытаюць яго ня толькі нашыя чытачы — беларусы, але й чужыя нам нашыя нядобразычліўцы.

З пашанаю да Вас, *Расьціслаў Завістовіч*

Письмо в Редакцию "Нового Русского Слова"

21-го июля 1994 г.

Уважаемый г-н Редактор!

Я буду очень благодарен если Вы найдете место для опубликования следующей заметки.

## НЕ В ЛАДАХ С ИСТОРИЕЙ

Часть своей длинной статьи "Из дальних странствий возвратясь..." (НРС от 16-17 июля 1994 г.) Александр Лазарев посвятил выборам на Украине и в Беларуси. В своем экскурсе в белорусскую историю г-н Лазарев пишет, что..."раздел России и Белорусии (в 1991 г. – РЗ) был абсолютно алогичным, разрывал исторические связи, уходящие корнями в глубь веков". Хотя, по времени, понятие "в глубь веков" нельзя назвать строго определенным, но, все таки, речь, вереятно, идет о глубокой древности. А если так, то г-н Лазарев изрекает "истину", далекую от исторической правды.

До конца 18 столетия Беларусь никогда не принадлежала России. И только при Екатерине Второй, во время третьего раздела Польши, вся территория Беларуси была, наконец, оккупирована Российской империей в 1795 году.

В глубокой древности историческая судьба связала белоруссов с литовцами. Оба народа развивались вместе (вдали от России!) в крупной средневековой державе — Великом Княжестве Литовском, в котором государственным языком еще со второй половины 14 столетия был белорусский язык того времени. В начале 16 столетия он гордо прозвучал со страниц первых в восточной Европе печатных книг издаваемых Франтишком Скариной — выдающимся белорусским ученым и первопечатником.

В 1967 году Беларусь отпраздновала 450-летие белорусского книгопечатания. Поэтому, не без

интереса надо отметить, что Россия отпразднует 450-летие печатания книг Иваном Федоровым лиш в 2013 году.

Г-н Лазарев также утверждает, что белорусско-российские отношения "не были связями метрополии и колонии". Давайте тогда проследим, что принесла была оккупация Беларуси Россией в конце 18 ст.? По этому поводу Владимир Орлов, современный белорусский писатель и историк пишет, что политика Российской империи принесла для белорусов не только 25-летние рекрутские наборы белорусских крестьян в царскую солдатчину, но и тяжелое крепостное право (или, точнее, полное бесправие). Раздавая своим фаворитам белорусские земли и белорусских крестьян, которые жили на этих землях, Екатерина Вторая и ее сын Павел сделали свыше миллиона беларусских крестьян крепостными российских помещиков. Со времени оккупации и до 1811 года, царское правительство собирало в Беларуси налоги не в ассигнациях, как это делалось в самой России, а в звонкой (золотой и серебряной) монете. По неофициальному курсу того времени 100 бумажных рублей равнялись 22 серебряным рублям. Поэтому Россия не только выкачивала из Беларуси драгоценные металлы, но и взыскивала с беларуссов налоги, которые в 4 раза были выше, чем в самой России (Полымя, Минск, 3, 1993, 144). Так как же тогда следует назвать все эти, мягко говоря, эксплуататорские излишества в оккупированной Беларуси? Оккупацию Беларуси Россия называла "воссоединением". В более поздний период российской истории термин "воссоединение" был заменен такими сочетаниями слов, взятых из российского словотворчества, как "подачей братской руки", а по отношению к другим народам – "несением культуры" и даже "исполнением интернационального долга". Все эти надуманные объяснения были призваны скрыть акты агрессивного расширения империи, т.е., подлинную цель российской политики.

Более ста государств во главе с Соединенными Штатами признали независимость Беларуси и Украины. Не одна страна, включая и Россию, не считает, что роспуск "империи зла" был неправомочным. А вот Александр Лазарев, нечего греха таить, стараясь подогнать историю России и ее соседей под общероссийский великодержавный знаменитель, называет роспуск "империи зла" "Беловежским сговором". Нет, экономический развал в Беларуси не был "прямым результатом беловежского сговора". Он был сговором большевистской элиты, преднамеренным актом уничтожения независимости Беларуси, руководимой еще и по сей день сверху донизу коммунистической номенклатурой. Это она, показывая обвинительным пальцем на оппозиционные демократические силы в Беларуси, а в первую очередь, на Беларуский Народный Фронт, довела народ до экономического отчаяния, результатом которого было избрание президентом Александра Лукашенко — экономического дилетанта и всеобешающего балагура.

С совершенным почтением,
*Ростислав Завистович*

Dear N. Prusky,

I was given the privilege to write letters to the prominent American-Belarusians and Canadian-Belarusians by the Members of the Board of Directors of the newly formed charitable organization, Belarus - American Child Health Foundation. The members of this board include: Dr. Thomas Foley, President of the Board and the co-founder; Dr. Warren Groupe, Treasurer and long-time consultant for Project Hope; Olga Korbut, Honorary President; and Maria Demkowicz, MD - Secretary and retired Pediatrician and Family Physician.

Belarus - American Child Health Foundation is a tax-exempt non-profit humanitarian organization registered in the United States. The co-founders in Belarus include the former Minister of Health Mr. V. Kazakov, MD and Alexey Kubarko, MD, the Director of the Medical Institute in Miensk.

The need for our organization was recognized by the American specialists who reviewed the pediatric health care in Belarus and also by the Ministry of Health in Belarus. The people of Belarus not only suffered the post-communist neglect, but also have increased health problems brought by the Chernobyl Nuclear Disaster. The incidence of thyroid cancer increased ten times as the result of Chernobyl and increases were also noted in the occurrence of leukemia and other infectious diseases.

Dr. Thomas Foley is the Director of the Endocrinology Department at the University of Pittsburgh Children's Hospital and a world-known specialist in thyroid diseases. He has been a consultant for Project Hope for the past twenty years. His accomplishments also include writing a number of books on thyroid diseases. At the present, Dr. Foley is the Director of the Partnership Program between the Children's Hospital of Pittsburgh and the following Belarusian organizations: The Miensk Medical School, the Radiology Institute of Miensk and the Children's Hospital #4 in Miensk. The Partnership Program was started thanks to Dr. Foley's tireless efforts.

Thanks to this program, many Belarusian physicians were trained in Pediatrics at the University of Pittsburgh. Furthermore, a number of American physicians from the Children's Hospital of Pittsburgh visited Miensk where they gave several lectures and consultations. The last joint conference was held in Miensk in October, 1994 where about 500 pediatricians from Belarus were trained in general pediatrics, endocrinology, C.P.R. and advanced life support.

The American International Health Alliance, a government agency which is sponsoring this program donated about $280,000 for the Partnership. This contribution, however, is not enough to provide all of the needed services in Belarus. To complicate the matter further, the Partnership Program will end in one year. The Belarus - American Child Health Foundation hopes to work with them and later to take over education and provide medical equipment in order to continue the excellent child care western style in Belarus.

The former Minister of Health — V. Kazakov and the Director of Miensk Medical School are partners in Belarus. They are very dedicated to the future of the Belarusian children's health and they offered to help by building a Child Health Center near the Medical School in Miensk. The present inpatient medical care in Miensk is scattered between five general hospitals which is not beneficial for good pediatric care and for teaching medical residents and medical students and should be consolidated. We know how short of finances institutions in Miensk are and the structures at the present are not as important as the education and the right medical equipment. There is a great need for an Immunology laboratory, otoscopes, sonograms, gastroscopy instruments, hematology, ECG and many others. The priority right now is on the early diagnosis of thyroid gland cancer so that the appropriate treatment can be applied early which will hopefully save many lives and lessen the suffering of many children and their families.

The job is big, but with the help of many people, organizations and US government grants, the Belarusians will have the best medical care available.

I am aware of the work done by the American-Belarusians and the Canadian-Belarusians in preserving the Belarusian culture and language and in building churches and establishing Belarusian organizations. Unfortunately, our organization was informed that we need to show the support of the American-Belarusian community in order to obtain additional grants to improve health care in Belarus. We ask you, please think about our children in Belarus and show your support to the continues improvement of health care in Belarus.

If you would like to help promote health care in Belarus, please contact your church, the Belarusian organizations and private individuals and seek their financial and moral support. Please send whatever contributions you can to the Belarus - American Child Health Foundation, P.O. Box 71094, Pittsburgh, PA 15213. If you would like to talk to Dr. Foley, please feel free to call him at (412) 963-9640 or Fax him at (412) 692-5834. If you would like to talk to Maria Demkowicz, please call (301) 774-9458. When we gather enough money for our cause, we will also need to lobby our Senators and Congressman.

Thank you for your time and consideration. Together we can make a difference in health care in Belarus.

Sincerely,
*Maria Demkowicz, M.D.*

Спадар Прускі!

...Мой знаёмы прыслаў мне тваю газэту. Газэта ОК. Але мяне цікавіць, хто яе фінансуе?...

В. Н.

*Ты напэўна не фінансуеш... бо памінаючы Тваю пісаніну пра розныя дурніцы, Ты ня прыслаў дасюль нават сімвалічнае ахвяры на выдавецтва, хоць ведаю, што газэту чытаеш.*

*Я ведаю таксама, што чытаеш польскую прэсу і мне цікава было-б ведаць, ці Ты ў іх пытаўся хто іх фінансуе?..*

*Мяне ніхто не фінансуе, але газэту падтрымоўваюць сваімі ахвярамі сьведамыя і інтэлігентныя людзі беларускага паходжаньня... ОК?!*

## БЕЛАРУСЬ СПРАБУЕ ВЯРНУЦЬ СТРАЧАНЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ

ЗВЯЗДА

У канцы студзеня ў Нью-Йорку адбыўся міжнародны сімпозіум па праблеме страчаных нацыянальных матэрыялаў і духоўных каштоўнасцей. Беларусь на ім прадстаўляў дырэктар Нацыянальнага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс.

На працягу трох дзён работы ўдзельнікі сімпозіума з розных краін свету чыталі даклады аб страчаных нацыянальных каштоўнасцях, абмяркоўвалі магчымасці іх рэстытуцыі.

А. Мальдзіс выступіў з дакладам аб трагічным лёсе беларускіх музейных і бібліятэчных збораў у час другой сусветнай вайны. У ім ён абверг вывады Рабочай групы па лёсах твораў мастацтва, вывезеных з СССР у час другой сусветнай вайны, пры Брэменскім універсітэце. Згодна з заключэннямі рабочай групы, Беларусь страціла ў вайну толькі 3 працэнты сваіх збораў (Украіна -- 60 працэнтаў, Расія -- 35 працэнтаў). На думку А. Мальдзіса, «хутчэй было наадварот: у краіне засталося ўсяго 3 працэнты каштоўнасцей, а сапраўдныя страты проста мала вядомы як у Еўропе, так і ва ўсім свеце».

Сярод асабліва вялікіх страт былі названы тыя, якія панёс у першыя месяцы вайны Магілёўскі абласны гістарычны музей. З яго знік славуты Крыж Святой Ефрасінні Полацкай, залаты і сярэбраны ключы Магілёва, золата, знойдзенае у Пампеях, сярэбраная булава караля Сігізмунда III і многія іншыя рэліквіі, кнігі, калекцыі. Панеслі страты і былая Карцінная галерэя БССР, Мінскі гістарычны музей, Баранавіцкі мастацкі музей.

Паводле даных Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі, якая вызначала страты СССР у час другой сусветнай вайны, у 1941--1944 гадах у Беларусі было знішчана 10 музеяў. Аднак, паведаміў А. Мальдзіс, камісія не ўлічыла страты яшчэ васьмі музеяў.

Акрамя таго, беларускі прадстаўнік адзначыў, што ў нашай краіны ёсць што абмяняць як з Расіяй, Францыяй, так і з іншымі краінамі, але для гэтага трэба каб былі заключаны і дзейнічалі двухбаковыя і шматбаковыя пагадненні, каб пытанні рэстытуцыі ўлічваліся пры падпісанні міждзяржаўных дагавораў.

**Аляксандр КАЗАК, РІД.**

***Алег ТРУСАЎ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь:***

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

## "Грамада здольная аб'яднаць дэмакратычныя сілы краіны"

— Мінулы год, нягледзячы на розныя цяжкасці, быў вельмі знамянальным. Прынята першая Канстытуцыя незалежнай дзяржавы, выбраны першы Прэзідэнт... Наша Грамада вырасла ў некалькі разоў, адкрыліся суполкі ў глыбінцы — Ушачах, Расонах, Глуску... Значыць, ёсць падтрымка народа.

А таму мы маем намер аб'яднаць усе дэмакратычныя партыі ў адзіны блок падчас выбараў у новы Вярхоўны Савет. Разлічваем атрымаць не менш паловы дэпутацкіх мандатаў. Нашы кандыдаты, на мой погляд, павінны заключыць нейкую пісьмовую дамоўленасць — даць гарантыі той ці іншай партыі, што будуць сумленна адстойваць яе інтарэсы. З маральнага боку гэта вельмі важна.

Наступны год таксама чакаецца нялёгкім. Што ж, братам-беларусам давядзецца яшчэ тужэй зацягнуць паясы, набрацца цярпення. Але ў людзей ёсць шанц выбрацца з дрыгвы. Веру, што дэмакратыя ўсталюецца на Беларусі, і народ напаткае лепшая доля.

Жадаю ўсім добрага здароўя, шчасця і мужнасці!

**Запісаў Віктар ЧАРНУШЭНКА.**

# Катэдру беларускай гісторыі апанавалі марксісты

**У Гомельскім унівэрсытэце пад прыкрыцьцём курсу гісторыі Беларусі чытаюцца лекцыі па гісторыі камуністычнай партыі.**

Рэч у тым, што новастворaная катэдра гісторыі Беларусі амаль цалкам укамплектаваная выкладчыкамі былой катэдры гісторыі КПСС.

На лекцыях гэтыя самавітыя вучоныя дэядзькі дэталёва распавядаюць біяграфіі Маркса, Энгельса ды імкнуцца пераканаць студэнтаў у пэрспэктыўнасьці для грамадзтва вучэньня марксізму, якое «сказілі». Калі студэнты спрабуюць высьветліць у лектараў, якое гэта мае дачыненьне да Беларусі, то чуюць у адказ: «Марксізм — гэта частка сусьветнай гісторыі, а значыць і частка гісторыі Беларусі». Карацей кажучы, забіваюць галовы рознаю лухтой.

Тымчасам маладых, адукаваных гісторыкаў да выкладчыцкай працы не дапускаюць. Усе месцы «забілі» марксісты-ленінцы.

"Свабода"

**Зьміцер САСНОЎСКІ, студэнт гістарычнага факультэту Гомельскага ўнівэрсытэту**




**Малюнак Алега ПАПОВА.**

# СЛОВА, ПАЛІТЫКА І ЧАС

**Сёньня, 26-га студзеня, спаўняецца роўна пяць гадоў з моманту прыняцця Вярхоўным Саветам Беларусі Закона аб мовах. Тады, у 1990-м, гэтая падзея была ўспрынята як пачатак беларускага Адраджэння, як пачатак барацьбы за незалежнасць краіны. І на самай справе прыняцце гэтага закона застаецца адной з найважнейшых вехаў у гісторыі станаўлення сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Якое месца дзяржаўная мова займае цяпер у жыцці краіны? Як Закон аб мовах за мінулы час паўплываў на кожнага з нас?**

"ЗВЯЗДА"

Змены пачалі паступова адчувацца не толькі на дзяржаўным, але і на бытавым узроўні. На сталах вялікіх і малых чыноўнікаў, простых служачых з'явіліся бланкі разнастайных дакументаў на дзяржаўнай мове. Былі заменены пячаткі ўстаноў, зменены шыльды на крамах і канторах. У сістэме адукацыі беларуская мова стала паступова адыгрываць усё больш значную ролю. Былі напісаны і выдадзены новыя школьныя падручнікі і дапаможнікі, настаўнікі ў абавязковым парадку праходзілі курсы па аваладанню мовай...

Аднак з цягам часу станавілася відавочна, што цягнік моўнай рэформы запавольвае свой рух. І ўрэшце наступіў той момант, калі рэформа перадолела тую мяжу, за якой яна ўжо не магла рухацца наперад з такой жа скорасцю, як раней. Гэту мяжу абумовіла палітычнае становішча ў краіне.

Да другой паловы 94-га года асабліва рэзкіх штуршкоў у які-небудзь бок ці процістаяння з-за беларускай мовы асабліва не адчувалася. Аднак пачынаючы з ліпеня атмасфера пачала напаляцца. Падыходзіў новы вучэбны год, калі дзеці пойдуць у школы і тэхнікумы, студэнты ў ВНУ. І чым бліжэй падыходзіў гэты момант, тым больш выразна акрэслівалася процістаянне. Адны бацькі жадалі каб іх дзеці вучыліся толькі на беларускай мове, другія заяўлялі аб тым, што іх дзяцей калечаць, прымушаюць вучыць непатрэбную ім мову. Прычым апошнія, патрабуючы захавання права чалавека, гарантаваных Канстытуцыяй, чамусьці патрабавалі, каб уся школа пераводзілася на рускую мову, замест таго, каб перавесці сваіх дзяцей у іншую школу або клас. У гэтай сітуацыі дзяржава захоўвала нейтральную пазіцыю.

У верасні Народны рух Беларусі падаў заяўку на правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму. Адным з чатырох пунктаў прапаноўвалася прагаласаваць за ўвядзенне другой дзяржаўнай мовы — рускай нароўні з беларускай. Гэта быў адзіны з першых пробных камянёў, кінутых у новую ўладу і, у прыватнасці, у Прэзідэнта. Аднак Рух атрымаў ад дзяржавы адмову, якая грунтавалася на Канстытуцыі і Законе. У канцы года моўнае процістаянне са старонак абласных і рэспубліканскіх газет і радыё вылілася на плошчы. Адзін за адным змяняліся пікеты на галоўных плошчах буйных гарадоў і перш-наперш сталіцы. Выступалі як з аднаго лагера, так і з другога. Адметна, што ў барацьбу ўключыліся не толькі бацькі вучняў, але і палітычныя партыі і аб'яднанні. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што ў Беларусі пытанне мовы неад'емна звязана з унутрыпалітычнымі дзеяннямі ўрада.

Новы, 1995 год не ўнёс спакою, а нават узмацніў процістаянне. Відавочна, што зараз паміж двума «моўнымі лагерамі» барацьба ўступае ў сваю, мабыць, самую вострую стадыю. Калі прайграюць прыхільнікі Закона аб мовах, то ў пройгрышы застанецца і сама дзяржава. Мы не можам быць зацікаўлены ў тым, каб яна прайграла, гэтак жа як не зацікаўлены, каб нехта прайграваў у магчымасці рэалізаваць свае правы.

Напачатку года 25 грамадскімі аб'яднаннямі і палітычнымі партыямі быў утвораны Каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы. Асноўнымі мэтамі ён ставіць карэнны паварот грамадства да нацыянальных каштоўнасцей, сапраўднае адраджэнне беларускай мовы, культуры, школы. У прынцыпе, задачы гэта дзяржаўныя, але, магчыма, камітэт дапаможа перададолець той бар'ер абыякавасці і супрацоўнічання, з якім да сваіх абавязкаў ставяцца многія дзяржаўныя чыноўнікі. Галоўнае, каб рэйкі, на якія скіраваны наш цягнік, не былі разабраны у якімнебудзь нечаканым месцы.

Мінула пяць гадоў. Вядома, зроблена даволі шмат. Аднак той стан беларускай мовы, у якім яна зараз знаходзіцца на сваёй Радзіме, выклікае не толькі спачуванне, але і перш-наперш неўразуменне: «Як такое магчыма з дзяржаўнай мовай?» А што думаеш, калі ў друку з'яўляюцца заметкі накшталт «Віцебск — рускі горад» — пра тое, што ў абласным цэнтры да гэтага часу няма ніводнай беларускай школы? Але што гаварыць пра Віцебск, калі ў самой сталіцы няма ніводнай цалкам беларускай школы, ніводнай беларускай ВНУ. А тыя дзеці, якія ўсё ж такі вучацца ў беларускіх класах, выходзяць з іх пасля заняткаў і ў сваёй большасці апынаюцца ў зусім іншым моўным асяродку.

Так, гэта сённяшняя рэчаіснасць Беларусі. Але з гісторыі, гэтак жа як і з песні, слоў не выкінеш. Словамі якой мовы будзе пісацца далейшая гісторыя нашай краіны?

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ.**

## ЗВАРОТ

*Леаніда Пранчака*

– аўтара кнігі "Беларуская Амэрыка" – да беларускіх эмігрантаў

Дарагія Суродзічы!

Перад адлётам у Нью Ёрк я забег у выдавецтва "Полымя", дзе рыхтавалася да друку мая кніга "Беларуская Амэрыка", каб пацікавіцца яе лёсам. Кніга толькі вярсталася і з цяжкасьцю верылася, што прыйдзе дзень, калі чытач зможа ўзяць яе ў рукі... Дзякуй Богу, той дзень надыйшоў! Дзякуй дырэктару выдавецтва Сп. М. Івановічу, рэдактару Сп. А. Саламевічу, усім шчырым людзям, якія працавалі над кнігай. Для мяне яе выхад — вялікая падзея і вялікая радасьць, плён шматгадовай працы і пошукаў, даніна павагі і памяці дзеду, Язэпу Пранчаку, які на пачатку XX стагодзьдзя жыў у Амэрыцы. Са старонак кнігі гучаць жывыя галасы беларускага замежжа. Беларускія эмігранты самі расказваюць пра сябе, свой лёс, пра тое, як яны змаглі далёка ад Бацькаўшчыны захаваць сваю адметнасьць і самавітасьць, як праз усё жыццё смаахвярна і цярпліва пранесьлі сваю беларускасьць і засталіся Беларусамі. Спадзяюся, іх праўдзівыя споведзі дапамогуць чытачу зразумець і адчуць беларускую душу, яе прыгажосьць і нязломнасьць, павярнуць да беларушчыны сваіх і чужынцаў.

Мая першая вандроўка па Амэрыцы, калі пісалася "Беларуская Амэрыка", была нядоўгай. Па гэтай прычыне ня было магчымасьцяў спаткацца са многімі знакамітымі Беларусамі, засталася неасьветленай дзейнасьць беларускіх асяродкаў у Іліной, Каліфорніі, Фларыдзе, Пансыльвэніі і іншых штатах. Не заўсёды хапала часу для ўдакладненьня ў маіх субяседнікаў асобных фактаў і дэталяў. Таму, на жаль, не абышлося без некаторых недакладнасьцяў. Перапрашаю за іх.

Цяпер, калі кніга нарэшце пабачыла сьвет, мне вельмі важна ведаць грамадзкую думку пра маю працу. Заўвагі і водгукі я выкарыстаю пры падрыхтоўцы новай кнігі — "Беларуская Амэрыка - 2", якая працягне пачатую ў "Беларускай Амэрыцы" размову пра Беларусь і беларусаў у сьвеце, пра фэномен беларускага замежжа ў ЗША. Зьвяртаюся да Суродзічаў Беларусаў з прапановай стаць маімі сааўтарамі і суразмоўцамі. Я гатовы сустрэцца з Вамі, выслухаць Вас, запісаць Вашы ўспаміны. Буду ўдзячны за любыя дакумэнтальныя матэрыялы, якія змогуць увайсьці ў кнігу. Чакаю Вашых лістоў на адрас:

34 Richter Ave.
Milltown, New Jersey, 08850
тэлеф.: (908) 246 3216

Са шчырай пашанай, —

## Из Минска -- в Лондон

**Переход на летнее расписание полетов, а это произойдет, как обычно, 26 марта, для компании БелАВИА будет интересен еще и тем, что состоится открытие нового регулярного рейса в Лондон.**

Два раза в неделю самолет ТУ-134 белорусской авиакомпании будет доставлять пассажиров из аэропорта "Минск-2" в лондонский "Гатвик".

К слову, на сегодняшний день наши пассажиры на белорусских самолетах могут летать уже в Германию, Израиль, Польшу, Австрию, Ирландию, на Кипр, а география чартерных рейсов намного обширнее.

***Татьяна СМИРНОВА***




Рисунок Сергея ПЕНКИНА.





## Курсы валют на 3 лютага

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 11220 | 11570 | 7433 | 7695 |
| "Прыор" | 10900 | 11500 | 7170 | 7570 |
| "Дукат" | 11100 | 11500 | 7400 | 7600 |

## ПАДПІСАНЫ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІ ДАГАВОР

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 6 лютага прыбыў з афіцыйным візітам у Літву. Гэта першая дзяржава Балтыі, куды беларускі Прэзідэнт робіць афіцыйны візіт. У Вільнюскім аэрапорце яго сустрэў прэм'ер-міністр Літвы Адольфас Шляжавічус.**

У гэты ж дзень Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з Прэзідэнтам Літвы Альгірдасам Бразаўскасам. Бакі падпісалі літоўска-беларускі Дагавор аб добрасуседстве і супрацоўніцтве, а таксама іншыя дакументы. Затым беларускі Прэзідэнт сустрэўся са Старшынёй сейма Літвы Чэславасам Юршэнасам.

У аўторак раніцай адбудзецца сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з Адольфасам Шляжавічусам, ён таксама выступіць у сейме. У другой палове дня 7 лютага А.Лукашэнка разам з дэлегацыяй, якая яго суправаджае, адбудзе ў Мінск.

**Вільнюс. ЭЛТА-Белінфарм.**

*СПРАВА СТАТКЕВІЧА*

## НА ПАЎТОРНЫ РАЗГЛЯД

**Ваенная калегія Вярхоўнага суда разгледзела пратэст намесніка старшыні Вярхоўнага суда Яўгена Царэнкі па справе старшыні Беларускага Згуртавання вайскоўцаў Міколы Статкевіча, звольненага з войска з фармулёўкай "за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра" загадам тагачаснага міністра абароны П.Казлоўскага. У пратэсце сказана, што вывады ваеннага суда аб тым, што "Статкевіч М.В. займаўся палітычнай дзейнасцю, пераканаўчымі доказамі не пацверджаны. Якія канкрэтна Статкевіч М.В. здзейсніў праступкі, дыскрэдытуючыя званне афіцэра, суд у рашэнні не прывёў".**

**Ваенная калегія, нягледзячы на пярэчанні прадстаўнікоў Міністэрства абароны, адмяніла рашэнне ваеннага суда, які палічыў звальненне старшыні БЗВ законным. Іск Статкевіча да міністэрства вернуты калегіяй на паўторны разгляд у Мінскі гарнізонны ваенны суд.**

*"Беларускі Дайджэст" просіць Вашае дапамогі!!!*

## Плён роздуму

Каб знайсці з іншым агульную мову, трэба страціць сумленне.

♦

Шлюбныя вузы, якія звязваюць па руках і нагах, не бываюць трывалымі.

♦

Часам быць самім сабой цяжэй, чым быць падобным на іншага.

♦

Жанчыны нярэдка недаацэньваюць мужчын. Асабліва тых, хто не мае магчымасці плаціць.

♦

Цяжка быць на кароткай назе з чалавекам, у якога доўгі язык.

♦

Нішто так іншы раз не робіць смешным чалавека, як жаданне выглядаць сур'ёзным.

♦

Каб пляваць у столь, трэба дасягнуць у жыцці пэўных вышынь.

♦

Мала іншы раз выглядаць разумным, трэба каб у гэта паверылі іншыя.

♦

Кінутыя на вецер словы забруджваюць не толькі атмасферу.

♦

Думкі прыходзяць і адыходзяць, а дурасць у галаве заўсёды застаецца.

♦

Свет цесны, аднак іншы раз адчуваеш сябе адзінокім, як у пустыні.

♦

Не варта ўцякаць, калі праследуе ўдача.

**Б. КАВАЛЕРЧЫК.**